Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР

22 ЛЮТАГА 1927 г.
№ 5 (30)

---

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

---

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

# ЗЬМЕСТ.

## Частка афіцыйная.

---

# ПАПРАЎКІ.

У Інструкцыі НКУС БССР аб ужываньні пастановы ЦВК і СНК БССР за 23/Х—1926 г. аб аплаце жылых памяшканьняў у гарадох БССР (БЮЛЕТЭНЬ СНК № 4 (29) 1927 г., стар. 9) трэба зрабіць наступныя папраўкі.

1. У арт. 22, радок 3-ці (стар. 14,) словы „ЧЫМ ТАЯ“—трэба ВЫКІНУЦЬ.

2. У арт. 23 (стар. 14) пачатак другога абзацу трэба чытаць так: „У МЕЖАХ СТАВАК, УСТАНОЎЛЕНЫХ АБАВЯЗКОВЫМІ ПАСТАНОВАМІ, КВАТЭРНАЯ ПЛАТА ДЛЯ АСОБ НЕПРАЦОЎНЫХ КАТЭГОРЫЙ...“ і г. д.

3. У табліцы № 2 (стар. 17) у графе „Норма выдаткаў на год“ наступныя радкі трэба чытаць: „%% АДНОСІНЫ ДА БУДАЎНІЧАГА КОШТУ ДОМАЎЛАДАНЬНЯ...“ і г. д.

---

## 1. Цыркулярны ліст Кіраўніцтва Спраў Савету Народных Камісараў БССР.

*Сэкратарыятам акруговых выканаўчых камітэтаў.*

Для больш поўнага азнаямленьня з жыцьцём акруг і належнага высьвятленьня дзейнасьці акруговых органаў улады Кіраўніцтву Спраў СНК (яго Інфармацыйнаму Аддзелу) пажадана мець больш інфармацыйных матар'ялаў аб бягучым жыцьці акруг. Гэтыя матар'ялы часта маюцца ў акруговых выканаўчых камітэтах, але не заўсёды прысылаюцца ў Кіраўніцтва Спраў СНК.

У зьвязку з гэтым Кіраўніцтва Спраў СНК просіць сэкратарыяты акруговых выканаўчых камітэтаў (за выключэньнем Барысаўскага, Мазырскага і Слуцкага—апошнія прыслалі) выслаць по 1 экз. справаздач аб дзейнасьці АВК за 1925 і 1926 г.г. і гарадзкіх саветаў усіх акруговых гарадоў аб іх дзейнасьці за 1926 г. і ў далейшым больш акуратна і рэгулярна прысылаць усякія інфармацыйныя матар'ялы. Просьба таксама больш рэгулярна і своечасова прысылаць пратаколы пасяджэньняў прэзыдыумаў і пленумаў акруговых выканаўчых камітэтаў і гарадзкіх саветаў.

Толькі пры забясьпечанасьці адпаведнымі матар'яламі будзе магчыма больш падрабязна высьвятляць жыцьцё акруг.

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР **М. Мароз.**

Загадчык Інфармацыйнага Аддзелу Кіраўніцтва Спраў СНК БССР **Х. Лібман.**

22 лютага 1927 г.

---

## 2. Пастанова Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

АБ АБАВЯЗКОВАЙ ЗАСОЛЦЫ НА РАЗЬНІЦАХ СКУР ДРОБНАЕ РАГАТАЕ ЖЫВЕЛЫ.

Эканамічная Нарада пры Савеце Народных Камісараў БССР ў дадатак да свае пастановы за 18 лістапада 1926 г.—Бюлетэнь СНК БССР 1926 г. № 15(24)—аб абавязковай засолцы скур на разьніцах—пастанаўляе:

1. Пашырыць дзейнічаючы парадак абавязковай засолкі скур буйнае рагатае жывёлы, якую рэжуць у разьніцах, таксама і на скуры дробнае рагатае жывёлы—цялят і вырастку, якія рэжуцца ў разьніцах у гарадох і іншых пунктах, вызначаных у асобным сьпісу, абвешчаным Н. К. Гандлю БССР.

2. Устанавіць наступную плату за засолку ў разьніцах скур, паказаных у п. 1 гэтае пастановы: 1 рубель за штуку апойка і 1 р. 50 коп. за штуку вырастку.

*Увага.* Акр. Вык. Камітэтам даецца права павялічваць паказаную плату за засолку скур, але на падставе і ня вышэй норм, вызначаных Н. К. Гандлю БССР.

3. Запрапананаваць Акр. Выкан. Камітэтам па атрыманьні гэтае пастановы зрабіць належныя захады да правядзеньня яе ў жыцьцё ў разьніцах сваіх акруг.

Старшыня Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР **М. Карклін**.

Адказны Сэкратар Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР **В. Крывіцкі**.

9 лютага 1927 г.
г Менск.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР

АБ РАЗЬМЕРЫ ГЭРБАВАГА ЗБОРУ І ПЛАТЫ ЗА НАТАРЫЯЛЬНЫЯ ДЗЕЯНЬНІ ПРЫ ПАСЬВЕДЧАНЬНІ ДАГАВОРАЎ АБ ПРАВЕ ЗАБУДОЎКІ, КАЛІ ПА ДАГАВОРУ ЗАБУДОЎШЧЫК ПАВІНЕН ПЛАЦІЦЬ ТОЛЬКІ АРЭНДНУЮ ПЛАТУ Ў РАЗЬМЕРЫ СТАВАК ЗЯМЕЛЬНАЕ РЭНТЫ.

*Акруговым Судом, Грашовым Аддзелам і Натарыяльным Канторам.*

Некаторыя Натарыяльныя Канторы пры пасьведчаньні дагавораў аб праве забудоўкі сустракаюць перашкоды пры вызначэньні сумы гэтых дагавораў для спагнаньня збораў.

Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Грашовых Спраў БССР растлумачваюць, што дагаворы аб праве забудоўкі, калі, згодна ўмовам дагавору, забудоўшчык аплачвае толькі арэндную плату ў разьмеры ставак асноўнае і дадатковае зямельнае рэнты, і прыбытак здаваемага пад забудоўку зямельнага вучастку ня можа быць вызначан у парадку п. „л“ арт. 5 інструкцыі аб ужываньні статуту аб гэрбавым зборы, падлягаюць аплаце простым гэрбавым зборам па першаму разраду (§ 20 пераліку папер, падлягаючых аплаце гэрбавым зборам) і натарыяльным зборам у разьмеры 2-х рублеў (арт. 18 таксы аплаты натарыяльных дзеяньняў).

Дадатковай аплаце гербавым і натарыяльным зборамі такія дагаворы не падлягаюць.

Народны Камісар Юстыцыі БССР **М. Сегаль**.

Нам. Народнага Камісара Грашовых Спраў **В. Мікуліч**.

Член Калегіі НКЮ і Загадчык Аддзелу Судабудаўніцтва і Нагляду **І. Эднэрал**.

„2“ лютага 1927 г.
НКЮ: № 10.
НКГС: № 3180-24.

---

ЗАЦЬВЯРДЖАЮ.
7-га лютага 1927 году.
Нам. Нар. Кам. Грашовых
Спраў БССР *В. Мікуліч.*

## 4. Інструкцыя Бюджэтнага Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР

### АБ ПАРАДКУ АПЛАТЫ РАЁННЫМІ КАСАМІ АСЫГНОВАК ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ВЫДАТКАХ ПА АСОБНЫХ ДАРУЧЭНЬНЯХ АКРУГОВЫХ ГРАШОВЫХ АДДЗЕЛАЎ

1. Установы і службовыя асобы, якія ўтрымліваюцца на дзяржаўным бюджэце і знаходзяцца ў раёнах, могуць атрымліваць асыгнаваньня на іх утрыманьне крэдыты праз бліжэйшыя касы Раённых Выканаўчых Камітэтаў (Раённыя касы).

2. Сьпіс устаноў і пасадных асоб, на якіх распаўсюджваецца паказаны ў п. 1 парадак аплаты крэдытаў праз Раённыя касы, устанаўляецца Народным Камісарыятам Грашовых Спраў БССР супольна з галоўным распарадчыкам крэдытаў.

*Увага.* Бяз ведама Нар. Кам. Грашовых Спраў Акруговыя Грашовыя Аддзелы ня маюць права ўносіць якія-небудзь зьмены ў паказаны сьпіс.

3. Крэдыты на ўтрыманьне ўстаноў, пералічаных у паказаным у п. 2 інструкцыі сьпісу, адчыняюцца на Акруговыя Прыбыткова-Выдатковыя Касы ў звычайным парадку. Падлік крэдытаў, складаньне справаздачнасьці і заверка зьлічыльных ведамасьцяй робіцца Акруговай Прыбыткова-Выдатковай Касай.

4. Для атрыманьня праз Раённыя касы неабходных сум распарадчыкі крэдытаў пасылаюць асыгноўкі ў тую Акруговую касу, на рахунках якой знаходзяцца іх крэдыты, а талёны накіроўваюць непасрэдна ад сябе атрымальніку грошай. У асыгноўках, апроч звычайных данных аб тым, каму і колькі павінна быць выдана,—у канцы тэксту паказваецца з якой імянна Раённай касы распарадчык крэдыту просіць зрабіць выплату грошай па гэтай асыгноўцы.

Такая адзнака робіцца распарадчыкам і ў талёне асыгноўкі, які пасылаецца атрымальніку для таго, каб ён ведаў, у якую Раённую касу трэба зьвярнуцца за атрыманьнем грошай.

5. Акруговая Прыбыткова-Выдатковая Каса, атрымаўшы асыгноўку, якая падлягае аплаце праз адну з Раённых кас, правярае правільнасьць складаньня яе, устанаўляе—ці маецца на рахунках касы крэдыт па даннаму каштарыснаму падзелу і ці надышоў тэрмін аплаты выдатку, паказанага ў асыгноўцы. Калі ня будзе ніякіх перашкод да аплаты асыгноўкі, то па адпаведнаму асабістаму рахунку разьлічковай кнігі каштарысных крэдытаў—ф. № 15, паказвае ч ы р в о н ы м  а т р а м э н т а м ў графе 1-ай—месяц і дзень адсылкі асыгноўкі; у графе 2-ой—дату і № асыгноўкі і найменьне Раённай касы, куды яна адсылаецца для аплаты, а ў графе 5-ай—падлеглую выплаце праз Раённую касу суму.

*Увага.* Сумы крэдытаў, сьпісаных для аплаты праз Раённыя касы, не павінны паказвацца выдаткам па балянсах і справаздачнасьці Акруговай касы да звароту аплачаных асыгновак. Рэшта свабодных крэдытаў таксама пакідаецца бяз зьмены.

6. Пры пасылцы асыгновак у Раённыя касы ў канцы бюджэтнага году, Акруг. Касы павінны мець на ўвазе, каб такія асыгноўкі маглі быць аплачаны Раённаю касаю, а таксама і праведзены Акруговаю касаю па кнігах і балянсах абабязкова ў працягу тэрміну дзеяньня крэдытаў. Калі-ж за кароткасьцю тэрміну прыведзенае трэбаваньне выканаць не прадстаўляецца магчымым, то ў такіх выпадках аплата асыгновак робіцца непасрэдна з Акруговых кас.

7. На адсылаемых для аплаты праз Раённую касу асыгноўках павінен быць даручальны надпіс Акруговай касы. Даручальныя надпісы робяцца на адваротнай староньцы асыгноўкі штампам, наступнага зьместу:

„..................................Акруговая Прыбыткова-Выдатковая Каса даручае Касе..............................Раённага Выканаўчага Камітэту выдаць падаўцу талёну гэтай асыгноўкі не раней..............................дня ..............................месяца..............................руб..............кап.

..............................дня..............................месяца 192..............году.

Загадчык Акруговай Касы..............................Ст. Бухгальтар..............................“

Даручальны надпіс павінен быць падпісан Загадчыкам Акруговай Касы, Ст. Бухгальтарам з прыкладам пячаткі Касы.

8. У даручальным надпісу Акруговая Прыбыткова-Выдатковая каса павінна паказаць, якая іменна сума падлягае выдачы на рукі атрымальніку грошай (выключаючы затрыманьняў, калі аб гэтым будзе асобна агаворана ў асыгноўцы).

9. Калі ў Акруговую касу паступіць асыгноўка няправільна складзеная, то яна павінна быць неадкладна зьвернута распарадчыку крэдыту.

*Увага.* У выпадку адсутнасьці крэдыту, Акруговыя касы асыгноўкі не зьвяртаюць, а пасылаюць распарадчыку крэдыту аб гэтым паведамленьне.

10. Асыгноўкі, падлягаючыя аплаце праз Раённую касу, адсылаюцца туды поштай, у закрытых пакетах, пры рэестрах—ф. № 1 (форма да інструкцыі дадаецца). У рэестрах паказваецца:

а) №№ пасылаемых асыгновак;
б) найменьне ўстановы, даўшай асыгноўку;
в) сума кожнай асыгноўкі ў паасобку;
г) сума, падлягаючая выдачы з Раённай касы.

11. Раённыя касы атрымліваемыя ў парадку гэтай інструкцыі асыгноўкі ні ў якія асобныя кнігі не запісваюць, а пасьля зьверкі з пасылаемымі рэестрамі - ф. № 1—захоўваюць іх разам з рэестрам у незгаральнай шафе да яўкі атрымальніка грошай.

12. Паступаючыя з Акруговых кас асыгноўкі Раённыя касы аплачваюць з маючайся ў іх свабоднай наяўнасьці сродкаў дзяржаўнага бюджэту (паступленьні дзяржаўных падаткаў і збораў, сум, выручаемых ад продажу гэрбавых знакаў, прамысловых патэнтаў і аблігацый, а таксама іншых сум, падлягаючых адсылцы ў Акруговыя Прыбыткова-Выдатковыя касы).

13. Грашовую наяўнасьць дзяржаўных прыбыткаў, якая застаецца свабоднай пасьля аплаты асыгновак з даручэньнямі, Раённыя касы павінны без затрымкі адсылаць у Акруговыя касы ў тэрміны,

прызначаныя для гэтага адпаведнымі інструкцыямі і абежнікамі. Калі к мамэнту адсылкі сум дзяржаўных прыбыткаў у Раённай касе будуць асыгноўкі, выплата грошай па якіх назначана Акруговаю касаю на бліжэйшыя дні, то, з ведама Загадчыка Раённай Грашова-Падатковай Часткі, Раённая каса можа пакінуць у сябе для далейшага захаваньня суму, неабходную для аплаты паказаных асыгновак, але ня болей, чым на пяць дзён.

*Увага.* Гранічны разьмер сумы, якую касы могуць пакідаць у сябе, а таксама і на які тэрмін—устанаўляецца спэцыяльнаю пастановаю Акруговага Грашовага Аддзелу для кожнай Раённай касы ў паасобку.

14. Пры яўцы атрымальніка грошай у Раённую касу, загадчык Раённаю Грашоваю Часткаю або асоба, яго замяняючая, патрабуе прад'яўленьня талёну асыгноўкі; атрыманы талён зьлічвае з маючайся ў Раённай касе асыгноўкай; устанаўляе, ці сапраўды за атрыманьнем грошай зьявілася асоба, азначаная ў асыгноўцы.

Пасьля такой праверкі Загадчык Раённаю Грашоваю Часткаю або асоба, яго замяняючая, робіць дазваляльны надпіс на асыгноўцы і перадае яе разам з талёнам касіру для аплаты.

15. Касір, раней чым выдаць паказаную ў асыгноўцы суму, прапануе атрымальніку грошай напісаць на спэцыяльна адведзеным у асыгноўцы месцы (пасьля слова атрымаў),—час атрыманьня грошай (год, месяц і дзень), пропісам фактычна атрымліваемую на рукі суму і ўчыніць уласнаручны подпіс.

*Увага.* Калі данная асоба атрымлівае грошы не за сябе, а па перадавер'ю другое асобы або ўстановы, то перад подпісам атрымальніка павінна быць паказана, якім іменна спосабам зроблена перадавер'е, напрыклад: „па даверанасьці на талёне“ або „па асобнай даверанасьці, далучанай да асыгноўкі“.

16. Праверыўшы правільнасьць расьпіскі атрымальніка грошай на асыгноўцы, касір запісвае ў касавую кнігу па выдатках у графе „выдаткі дзяржаўных сродкаў“ выдаваемую суму з адзначэньнем у тэксьце, каму і па якой асыгноўцы выдача зроблена, затым выдае атрымальніку належачую яму суму, а асыгноўку разам з талёнам перадае бухгальтару Раённай касы. На асыгноўцы касір паказвае час аплаты і № артыкулу касавай кнігі, пад якім запісана паказаная выдача, а на талёне асыгноўкі робіць надпіс, паказаны ў пункце 22-ім.

*Увага.* Выдача грошай часткамі ў рахунак належачай па асыгноўцы сумы не дапушчаецца.

17. Асоба, на якую выпісана асыгноўка, можа замест асабістай яўкі ў Раённую касу, перадаверыць атрыманьне грошай другой асобе або ўстанове ўстаноўленым для гэтага парадкам.

У тых выпадках, калі асыгноўка выпісана на імя ўстановы, а за атрыманьнем грошай у Раённую касу зьявіцца ня сам Загадчык установы, а ўпаўнаважаная ім асоба, то на талёне асыгноўкі абавязкова павінен быць перадавальны надпіс за подпісам як самога Загадчыка, так і бухгальтара або рахункавода, з прыкладам пячаткі ўстановы.

*Увага.* Перадавальныя надпісы на талёнах асыгновак аплаце гэрбавым зборам не падлягаюць.

18. Апроч спрошчаных перадавальных надпісаў на талёнах асыгновак, перадавер'і на атрыманьне грошай могуць давацца і асобнымі даверанасьцямі. У такіх даверанасьцях павінна быць падрабязна паказана: хто, каму і па якой іменна асыгноўцы, з адзначэньнем—калі, за якім № і на якую суму—давярае атрымаць грошы і з якой касы.

*Увага* Па зборных асыгноўках на выдачу ўтрыманьня ня могуць давацца ні перадавальныя надпісы на талёнах, ні паўнамоцтвы пры асобных даверанасьцях, за выключэньнем выпадкаў, калі асыгноўкі (зборныя) складзены на імя Загадчыкаў Установ, без паказаньня прозьвішча і іменьняў іх.

19. Асобныя даверанасьці, калі яны выданы ўстановамі і асобамі, не пазбаўленымі ад аплаты гэрбавага збору, павінны аплачвацца гэтым зборам у наступным разьмеры:

У 1 руб—калі подпісы на даверанасьці засьведчаны якою-небудзь дзяржаўнаю ўстановаю і ў 15 кап.—пры адсутнасьці пасьведчаньня подпісаў.

20. Аплачаныя за дзень асыгноўкі бухгальтар Раённай касы адзначае ў рэестры--ф. № 1, з паказаньнем у разьдзеле „Адзнака Раённай касы аб аплаце асыгновак“: час аплаты асыгноўкі; № артыкулу касавай кнігі; а па асыгноўках, падлягаючых зьвяртаньню без аплаты, у графе 7-ай адзначае час зьвяртаньня асыгноўкі ў Акруговыя касы; у тэй-жа графе 7-ай адзначаецца і час адсылкі ў Акруговую касу аплачаных асыгновак.

21. Пасьля адзнакі ў рэестры--ф. № 1--аплачаныя асыгноўкі ўпісваюцца бухгальтарам у рэестр--ф № 2—„Асыгноўкі, аплачаныя і падлягаючыя зьвяртаньню ў Акруговую Прыбыткова-Выдатковую касу“ і разам з прыбытковымі дакумэнтамі за даннае сямідзёньне, пры рэестры ф. № 2 накіроўваюцца ў Акруговую касу. Для справак у Раённай касе пакідаецца копія рэестру ф. № 2, які складаецца пад капірку.

Рэестры падпісваюцца Загадчыкам Раённай Грашовай Часткі і бухгальтарам.

22. Пасьля выдачы грошай касір робіць на талёне асыгноўкі адзнаку наступнага зьместу, напр: „4-га студзеня 1927 г. Чэрвенскай Раённай касай выдана 145 руб. 30 кап. Касір Іваноў“.

Затым на першай старонцы перакрэсьлівае крыжавідна атрамэнтам.

Калі грошы па даннаму талёну асыгноўкі атрымаў сам распарадчык крэдыту, то бухгальтар Раённай касы можа зараз-жа перадаць яму талён асыгноўкі, па якой толькі што атрыманы грошы, а ва ўсіх іншых выпадках талёны аплачаных асыгновак не пазьней, як на наступны дзень, адсылаюцца поштай ва установу, якая выпісала асыгноўку.

23 Для бесперабойнага атрыманьня грошай праз Раённую касу, распарадчыкі крэдытаў павінны загадзя пасылаць у Акруговую касу ўстаноўленыя асыгноўкі, прымаючы ў рахунак час, неабходны на праводку асыгновак па кнігах Акруговай касы і на перасылку іх у Раённую касу.

24. У такіх выпадках, калі для ўчыненьня некаторых дзяржаўных выдаткаў устаноўлен вызначаны тэрмін, напрыклад, выплата ўтрыманьня—не раней 1-га і 16 дня, Акруговым касам даецца пра-

ва адсылаць у Раённыя касы асыгноўкі на такія выдаткі загадзя,
але ў даручальных надпісах па асыгноўках Акруговая каса павінна
паказаць, калі іменна Раённая каса можа аплаціць данную асыг-
ноўку.

25. Выдача грошай Раённаю касаю раней тэрмінаў, паказаных
у асыгноўках, будзе разглядацца, як бескрэдытная выдача.

26. Дзеля таго, што магчыма, што ў некаторых Раённых касах,
пастулаючых дзяржаўных прыбыткаў будзе не хапаць для
поўнай аплаты крэдытаў, асыгнаваных установе, атрымліваючай
грошы праз Раённую касу, Акруговыя касы павінны назіраць за
тым, каб выдачы буйных сум, належачых па падрадах і пастаўках
прыватным асобам, а таксама гаспадарчым і грамадзкім установам,
рабіліся непасрэдна з Акруговай касы або высылаліся гэтай касаю
на імя атрымальнікаў грошай поштаю за іх рахунак.

27. Апроч аплаты асыгновак па дзяржаўнаму бюджэту, на
Раённыя касы таксама ўскладаецца выплата пэнсіі школьным работ-
нікам, інвалідам вайны і іх сем'ям. Для гэтага замест асыгновак
Акруговыя Страхавыя Касы і Акруговыя Аддзелы Сацыяльнай За-
бясьпекі павінны пасылаць у Акруговыя Прыбыткова-Выдатковыя
Касы складзеныя імі ў 2-х экз. і па кожнаму раёну ў паасобку
іменныя сьпісы—ф. № 3—на пэнсіянэраў—школьных работнікаў і
інвалідаў.

У сьпісах павінна быць паказана: імя, імя па бацьку і прозь-
вішча пэнсіянэра, за які месяц і колькі пэнсіі належыць, апроч таго,
у сьпісах пэнсіянэраў—школьных работнікаў—якая іменна сума
належыць да выдачы за рахунак дзяржаўнага бюджэту і асобна за
рахунак сацыяльнага страхаваньня.

*Увага.* Выплата пэнсіі інвалідам сацыяльнай забясьпекі
робіцца праз Раённыя касы часова, да зацьверджаньня інструк-
цыі аб выплаце гэтай пэнсіі праз Ашчадныя касы.

28. Па атрыманьні сьпісаў, паказаных у п. 27-ым, Акруговая
Прыбыткова--Выдатковая Каса правярае, ці правільна такія сьпісы
складзены; ці маюцца крэдыты на выдачу пэнсіі за рахунак дзяр-
жаўнага бюджэту; ці атрыманы ад адпаведных страхавых органаў
50% сумы, падлягаючай выдачы за іх рахунак у пэнсію школьным
работнікам і пры адсутнасьці перашкод да выдачы пэнсіі—сьпісы
накіроўвае ў падлеглыя Раённыя касы з паказаньнем тэрміну, з якога
можа быць пачата выплата пэнсіі на месцы.

29. Выплата пэнсіі з Раённых кас робіцца на падставе пэнсійных
кніжак, прад'яўляемых у Раённыя касы самімі пэнсіянэрамі або іх
даверанымі асобамі.

*Увага.* Пэнсійныя кніжкі выдаюцца: школьным работнікам—
органамі сацыяльнага страхаваньня, а інвалідам вайны і іх
сем'ям—Акруговымі Аддзеламі Сацыяльнай Забясьпекі.

30. Пры выплаце пэнсіі Раённая каса назірае, каб на чарговых
талёнах пэнсійных кніжак былі надпісы адпаведных установ аб тым,
што данны пэнсіянэр ня страціў права на атрыманьне пэнсіі. Пры
наяўнасьці такога надпісу бухгальтар Раённай касы правярае—ці
сходзяцца зьвесткі, паказаныя ў прад'яўленай пэнсійнай кніжцы, са
зьвесткамі, паказанымі ў іменным сьпісу, прысланым Акруговай
касай і пасьля гэтага запаўняе трэбуемымі даннымі чарговы талён
пэнсійнай кніжкі.

*Увага.* На выплату пэнсіі школьным работнікам запаўняюцца два талёны: першы на 50% сумы, выплачваемай за рахунак дзяржаўнага бюджэту і другі—на 50% за рахунак органаў сацыяльнага страхаваньня.

31. Запоўненыя і падпісаныя бухгальтарам талёны перадаюцца разам з пэнсійнымі кніжкамі касіру, які, запісаўшы ў касавую кнігу, каму, за які месяц і па якой пэнсійнай кніжцы пэнсія выдана, запісвае ў графу „Дзяржаўныя выдаткі і сьпісаньні па дзяржаўных прыбытках“ фактычна выдаваемую суму і, адабраўшы ад пэнсіянэра або яго даверанага расьпіску на талёне кніжкі, выдае атрымальніку грошы і пэнсійную кніжку; аплачаны талён з адзнакай на ім № артыкулу касавай кнігі касір перадае бухгальтару.

32. Бухгальтар робіць адзнаку ў іменным сьпісу—ф. № 3, аб тым, колькі і калі выдана, пасьля чаго, аплачаныя талёны пэнсійных кніжак запісваюцца ў рэестр—ф. № 2, для адсылкі аплачаных талёнаў разам з аплачанымі асыгноўкамі ў Акруговую Прыбыткова-Выдатковую касу.

33. Акруговая Прыбыткова-Выдатковая Каса, атрымаўшы ад Раённых кас аплачаныя імі асыгноўкі і талёны пэнсійных кніжак, робіць на сваіх рахунках наступныя правядзеньні:

а) аплачаныя асыгноўкі сьпісвае ў выдатак па асабістых рахунках разьлічковай кнігі - ф. № 15, у графах 6 і 7; пры чым у графе першай паказвае над рысай час правядзеньня асыгновак па рахунках Акруговай касы і пад рысай—час выдачы грошай з Раённай касы;

б) у графе 5-ай—процi сумы аплачанай асыгноўкі робіць адзнаку „выпл.“ і паказвае час выдачы грошай Раённаю касаю;

в) на агульную суму аплачаных Раённаю касаю асыгновак складае ордэры, як на дзяржаўныя выдаткі, зробленыя непасрэдна з Акруговай касы;

г) на выплачаную Раённаю касаю суму складае прыбытковы ордэр для запісу на прыбытак ад Раённай касы сабраных ею дзяржаўных прыбыткаў, аднасячы часова запісваемую суму на рахунак нявысьветленых прыбыткаў да прысылкі Раённаю касаю арыгінальных прыбытковых дакумэнтаў.

34. Правядзеньне ў Акруговай касе выплачанай пэнсіі робіцца прыстасавальна да парадку, паказанаму вышэй у пункце 33-ім.

Начальнік Бюджэтнага Кіраўніцтва Народнага
Камісарыяту Грашовых Спраў БССР **А. Сьцепанюк**.

Загадчык Касавай Часткі
Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР **С. Мігуцкі**.

7-га лютага 1927 г.

---

ДАДАТАК 1.

Форма № 1.

# РЭЕСТР

асыгноўкам, пасылаемым ............ Акруговай Прыбыткова-Выдатковай Касай для аплаты з ............ Раённай Касы.

| №№ пасылаемых асыгновак. | Найменьне ўстановы, выпісаўшай асыгноўку. | Сума, на якую асыгноўка выпісана. | Сума падлягаючая выдачы з Раённай касы. | Адзнака Раённай касы аб адсылцы або аплаце асыгноўкі. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Час аплаты або зьвярт. асыгноўкі. | №№ арт. касавай кнігі. | Час адсылкі асыгновак у Акруговую касу. |
| | | | | | | |

Подпісы:

Загадчык Касы

Ст. Бухгальтар

ДАДАТАК 2.

Форма № 2.

Б. С. С. Р.

Грашова-Падатковая ЧАСТКА

............ Райвыканкому

............ Акругі.

„ ' ............ 192 г.

№ ............

*У ............ Акруговую Прыбыткова-Выдатковую Касу.*

Пры гэтым посылаюцца аплачаныя Раённаю касаю выдатковыя дакумэнты па дзяржаўнаму бюджэту:

| №№ па парадку. | №№ асыгновак і пэнсійных кніжак. | Найменьне устаноў, выдаўшых асыгноўку і прозьвішчы пэнсіянэраў. | Выданая сума. | Адзнака Акруговай касы аб часе правядзеньня дакумэнту па рахунках. |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Подпісы:

Загадчык Грашова-Падатковай Часткі

Бухгальтар

Блянк Акр Граш. Аддзелу). ДАДАТАК 3.

Форма № 3.

„......“ .............. 192 г

№ ..............

*Грашова-Падатковай Часьці пры ..............*
*.............. Раённым Выканаўчым Камітэце.*

Акруговая Прыбыткова-Выдатковая Каса даручае зрабіць выплату пэнсіі ніжэйпаказаным інвалідам і школьным работнікам І-ай ступені, пражываючым у .............. раёне. Тэрмін выплаты пэнсіі не раней ...... дня .............. месяца.

| №№ па парадку. | Прозьвішча, імя і імя па бацьку пэнсіянэра. | № выданой яму пэнсійнай кніжкі. | Належыць да выдачы | | Адзнака аб выдачы. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | За рахунак касаваи наяўнасьці НКГС (50%) | За рахунак сум унасімых органамі Сацыяль Страх (50%) | Час выдачы. | За рахунак Нар. Кам. Граш. Спраў. | За рахунак органаў Сыцыяльнага Страхаваньня. |
| | | | | | | | |

Подпісы:

Загадчык Касы

Ст. Бухгальтар

---

## 5. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ УЖЫВАНЬНІ ПРАВА ЗАБУДОЎКІ ЗЯМЕЛЬНЫХ ВУЧАСТКАЎ У ГАРАДЗКІХ І ПА-ЗА-ГАРАДЗКІХ МЯСЦОВАСЬЦЯХ БССР.

### І. Агульныя паказаньні.

1. Зямельныя вучасткі пад забудоўку могуць давацца толькі органамі, якім дадзена права распараджэньня зямлёю: у гарадох і мястэчках—(па сьпісу, паказанаму ў Зборы Законаў і Загадаў БССР за 1925 г. № 31, арт. 293)—Камунальнымі Аддзеламі, або замяняючымі іх органамі - камунальна-дарожнымі часткамі раённых выканаўчых камітэтаў (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г. № 9), а ў па-за-гарадзкіх мясцовасьцях—зямельнымі і другімі органамі раённых выканаўчых камітэтаў, у веданьні якіх знаходзяцца адпаведныя зямельныя вучасткі. Другія ўстановы, за якімі замацаваны землі. хоць-бы ў бестэрміновае ці працяжнае карыстаньне, ня маюць права заключаць дагавораў аб здачы зямель пад забудоўку.

2. Права забудоўкі можа быць дадзена і некалькім асобам разам, пры гэтым у дагавор можна ўносіць агаворку аб салідарнай іх адказнасьці з тым, што права кожнага пашыраецца на ўсё права забудоўкі ў вызначанай дагаворам часьці, або ў роўных частках.

3. Устаноўленае дагаворам права забудоўкі ня можа спыняцца да сканчэньня тэрміну дагавору.

*Увага.* Пры пераходзе права забудоўкі да камунальнага аддзелу да тэрміну ў парадку арт. 82 Грамадзянскага Кодэксу пры ўмове, што яно не абцяжарана залогам або іншымі абмежаваньнямі і калі фактычна забудоўка не рабілася, права забудоўкі на данны вучастак спыняецца.

4. Забудоўшчык мае права ня толькі адчужаць сваё права забудоўкі, але мае права рабіць распараджэньні, якія не пярэчаць аб'ёму яго праў, напрыклад: здаваць у наём другім асобам будынкі цалкам, або па частках разам з зямельным вучасткам на тэрмін, ня большы за самы тэрмін забудоўкі. Здаваць у арэнду вучастак зямлі бяз будынкаў забудоўшчык мае права толькі са згоды органаў выканаўчых камітэтаў, якія ведаюць камунальнай гаспадаркай.

## II. Аб пераходзе права забудоўкі да другіх асоб і аб залогу права забудоўкі.

5. Пры пераходзе ва ўстаноўленым законам парадку права забудоўкі да іншае асобы, права гэта застаецца ў моцы з захаваньнем ўсіх умоў дагавору і ўсіх зьвязаных з ім праў, абавязкаў і абавязнасьцяй.

6. Залог права забудоўкі ўстанаўляецца ў межах тэрміну дагавору на час, вызначаны па дагавору аб залогу. Пры пераходзе права забудоўкі да новага набываўцы залогавае абцяжарваньне застаецца ў моцы, за выключэньнем выпадкаў набываньня права забудоўкі з публічных таргоў, калі залогаджяржаўца задавальняецца з сум, атрыманых ад продажу.

7. Пры пераходзе заложанага права забудоўкі да камунальнага аддзелу або да замяняючай яго ўстановы ў парадку арт. 82 Грамадзянскага Кодэксу камунальны аддзел перадае судоваму выканаўцу для задаваленьня залогадзяржаўцы патрэбную на гэта суму з кошту будынкаў, якая павінна быць на падставе арт. 83 Грамадзянскага Кодэксу выдана забудоўшчыку. Пры гэтым у выпадку, калі кошт будынкаў будзе меншы залогавае сумы, залогавае абцяжарваньне застаецца на праве забудоўкі ў незадаволенай частцы і пры перадачы права забудоўкі новаму забудоўшчыку апошні павінен або выплаціць яе залогадзяржаўцу, або са згоды апошняга перавесьці яе на сябе.

8. Камунальны Аддзел або замяняючы яго орган ня можа перашкаджаць адчужэньню або залогу права забудоўкі як цалкам, так і ў ідэальнай долі з тым, што п р а в а  з а б у д о ў к і  і  ў с е  в ы н і к а ю ч ы я  з  д а г а в о р у  п р а в ы  і  а б а в я з к і  б у д у ц ь  в ы к а н а н ы  ў с і м і  з а б у д о ў ш ч ы к а м і  р а з а м. З дазволу Камунальнага Аддзелу або замяняючага яго органу дапушчаецца таксама адчужэньне і залог пэўнай часьці права забудоўкі. Пры гэтым робіцца выдзел па плянах і ў натуры вызначанай пад залог часьці зямельнага вучастку. Выдзел часьці зямельнага вучастку можна рабіць толькі па заключэньню тэхнічна-будаўнічага нагляду, калі выдзелены вучастак па якасьці плошчы зьяўляецца годным да забудоўкі, задавальняе будаўнічым правілам і ня менш вызначанай для даннага гораду або мястэчка мінімальнай нормы сядзібна-будаўнічых вучасткаў. Аб выдзелу часьці зямельнага вучастку, а таксама аб залогу або адчужэньні права забудоўкі выдзеленага вучастку робіцца надпіс на дагаворы аб забудоўцы і адзнака ў рэестравай кнізе здадзеных пад забудоўку зямельных вучасткаў. Для выдзеленых вучасткаў у выпадках іх адчужэньня робіцца асобны запіс у рэестравай кнізе. Калі права забудоўкі зямельнага вучастку ў цэлым ужо абцяжарана за-

логам, выдзел часткі вучастку можа быць зроблены толькі са згоды залогадзяржаўцы звольніць ад закладу выдзяляемы вучастак.

9. Залог і адчужэньне права забудоўкі абавязкова робяцца ў парадку арт. арт. 79 і 90 Грамадзянскага Кодэксу. Пры рэгістрацыі зьдзелкі адчужэньня або залогу камунальны аддзел або замяняючы яго орган робяць надпіс аб рэгістрацыі на акце зьдзелкі і выдае яго зацікаўленай старане. Пры пераходзе права забудоўкі да Камунальнага Аддзелу або да замяняючага яго органу ў парадку арт. 82 Грамадзянскага Кодэксу трэба зрабіць натарыяльны акт набыцьця права забудоўкі, паводле арт. 312 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу.

10. У камісію, прадугледжаную арт. 83 Грамадзянскага Кодэксу для ўстанаўленьня кошту будынкаў, пераходзячых да Камунальнага Аддзелу або замяняючага яго органу, ўваходзіць ня менш, як па 1 члену ад Камунальнага Аддзелу і тэхнічна-будаўнічага нагляду. У ацэначную камісію выклікаецца таксама забудоўшчык, або яго прадстаўнік.

## III. Аб здачы зямельных вучасткаў на праве забудоўкі.

11. Пры масавай здачы вучасткаў пад забудоўку Камунальныя аддзелы або замяняючыя іх органы адначасна публікуюць аб усіх вучастках, вызначаных пад забудоўку, а таксама аб будынках, якія мяркуецца здаць на праве забудоўкі з мэтай іх аднаўленьня або дабудоўкі.

12. Рабочыя Жыллішчна-Каапэрацыйныя Таварыствы карыстаюцца пераважным перад усімі другімі ўстановамі і асобамі правам забудоўкі як свабодых зямельных вучасткаў, так і забудаваных будынкамі, патрабуючымі аднаўленьня або забудоўкі ў межах, паказаных законам.

13. Зямельныя вучасткі з пабудаванымі на іх не на праве забудоўкі муніцыпалізаванымі будынкамі могуць здавацца для далейшай забудоўкі або дабудоўкі на падставе правіл аб праве забудоўкі, але пры ўмове, што кошт новых будаўнічных работ будзе складаць ня менш 30% будаўнічай ацэнкі сапраўднага кошту будынкаў да моманту здачы вучастку. Кошт будынкаў вызначаецца паводле дадатай да гэтага тэхнічнай інструкцыі Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў.

## IV. Аб дагаворы на права забудоўкі.

14. Дагавор на права забудоўкі, а таксама і ўсякія зьмены і дапаўненьні робяцца ў парадку арт. 72 Гр. Код.

15. У дагаворы на права забудоўкі абавязкова паказваюцца ўсе ўмовы, пералічаныя ў арт. 73 Гр. Код., пры гэтым належыць кіравацца наступнымі паказаньнямі:

Пап. „а“ (Назва старон, якія дагаварваюцца):

Дагавор робіцца ад імя камунальнага аддзелу або іншага органу, якому законам дадзена права здаваць зямельныя вучасткі пад забудоўку, у асобе яго загадчыка. Забудоўшчыкам можа быць як юрыдычная асоба (каапэрацыйнае аб'яднаньне, установа, прадпрыемства, арганізацыя і г. д.), так і фізычная асоба.

Пап. „б“ (Тэрмін дзейнасьці дагавору):

Тэрмін гэты для каменных будынкаў можа быць устаноўлены да 60 год, а для драўляных і іншых—да 40 год (арт. 71 Гр. Код.). Для

мешаных будынкаў (каменныя і драўляныя паверхі) гранічны тэрмін дагавору ўсганаўляецца больш, як для драўляных будынкаў і менш як для каменных (г. зн. між 40 і 60 гадамі). Для палегчаньня забудоўшчыкам умоў крэдытаваньня і дачы ім магчымасьці больш поўнага выкарыстаньня рабімых затрат тэрмін дагавору забудоўкі незанятага зямельнага вучастку пры ўмове пабудаваньня ня менш 75% памяшканьняў жылога прызначэньня, належыць устанаўляць, як агульнае правіла, ня менш 2/3 гранічнага тэрміну права забудоўкі, г. зн., ня менш 40 год для каменных будынкаў і 26 год—для іншых.

Для Рабочых Жылішчна-будаўнічых Кааперацываў пры зазначаных умовах тэрмін дагавору не павінен быць скарочаны супроць яго гранічнай, вызначанай законам велічыні.

Пры здачы на праве забудоўкі зруйнаваных і недабудаваных будынкаў магчыма зьмяншэньне тэрміну дагавору, але ён не павінен быць менш 2/3 гранічнага тэрміну для Рабочых Жылішчна-будаўнічых Кааперацываў і паловы гранічнага тэрміну—для іншых забудоўшчыкаў.

У тых выпадках, калі для аднаўленьня або дабудоўкі здаюцца будынкі са значнай жылой плошчай, трэба ўстанаўляць найбольш працяжны тэрмін дагавору. У іншых выпадках пры здачы вучасткаў пад забудоўку з будынкамі гандлёва-складачнага значэньня або са значнай гандлёвай плошчай тэрмін дагавору належыць устанаўляць у залежнасьці ад згоды старон.

Па п. „в“ (Дакладнае вызначэньне здаваемага пад забудоўку вучастку).

Адзначаюцца месцазнаходжаньне і межы вучастку, меры межавых ліній, плошча вучастку, апісаньне знаходзячыхся на вучастку будынкаў, іх становішча, ацэнка іх да моманту здачы і іншыя адзнакі, характарызуючыя здаваемы вучастак.

Да дагавору павінен быць даданы плян вучастку, здаваемага на праве забудоўкі.

Па п. „г“ (Разьмер і тэрмін узносу арэнднае платы).

Арэндная плата за зямельныя вучасткі, якія здаюцца пад забудоўку, не бярэцца, як за ўвесь час, абумоўлены дагаворам для пабудаваньня або аднаўленьня будынкаў, так і на працягу трох год з дню іх пабудаваньня або аднаўленьня. За ўвесь астатні час дзейнасьці дагавору арэндная плата не бярэцца ў тым выпадку, калі жылая плошча пабудаванага або адноўленага домаўладаньня складае ня менш 75% усяе плошчы пабудаваных або адноўленых будынкаў.

Пры адсутнасьці зазначаных вышэй умоў і калі па дагавору забудоўцы павінны быць пабудаваны або адноўлены будынкі гандлёвага характару ці з высокім процантам (больш 25) гандлёвае плошчы, арэндная плата бярэцца на наступных падставах: а) разьмер і тэрміны ўзносу арэнднае платы належыць устанаўляць у залежнасьці ад згоды старон; пры гэтым аднак належыць зьмяняць арэндную плату ў бок павялічэньня або памяншэньня, выходзячы з разьмеру і процантных адносін жылое плошчы да плошчы будынкаў, мяркуемых да пабудаваньня або аднаўленьня. У апошнім выпадку ў дагаворы на забудоўку могуць быць абумоўлены тэрміны і разьмер павялічэньня арэнднае платы ў межах, устаноўленых увагаю 2-ю да арт. 73 Гр. Кодэксу; б) калі ёсьць будынкі на здаваемых пад

забудоўку зямельных вучастках, у складзе арэнднае платы спаганяюцца з моманту сканчэньня пабудоўкі і ўзносы на амартызацыю ў разьмеры ня звыш 1% з кошту каменнага будынку ў момант яго здачы забудоўшчыку і ня звыш 2% кошту драўлянага будынку: в) рабочыя жыліщчна-будаўнічыя каапэратывы па пастанове выканаўчых камітэтаў могуць звальняцца цалкам або часткова ад узносаў на амартызацыю і ад арэнднае платы; таксама можна з зацьверджаньня выканаўчага камітэту зьмяншаць арэндную плату і іншым забудоўшчыкам, якія бяруць на сябе пабудоўку або аднаўленьне будынкаў са значнай жылой плошчай.

Устаноўленая ў адпаведнасьці з зазначаным вышэй арэндная плата павінна брацца штогоднымі ўзносамі. Не дапушчаецца спаганяньне з забудоўшчыкаў адначасовых узносаў, якія зьяўляюцца капіталізаванай арэнднай платай або капіталізаваным даходам з будынкаў, а таксама не дазваляецца ўнясеньне ў дагавор умоў, паводле якіх у замену звальненьня ад арэнднае платы ўстанаўляецца бясплатны пераход будынкаў да камунальнага аддзелу або замяняючых яго органаў па сканчэньні тэрміну дагавору.

*Увага.* У лік 75% плошчы будынкаў трэба ўключаць усю плошчу будынкаў, занятую жылымі кватэрамі, уключаючы сьцены, сходы, печы, калідоры, кухні, унутраныя ўборныя і інш.

Па п. „д“ (Характар і разьмер будынкаў, якія забудоўшчык абавязан пабудаваць).

У выпадку адступленьня ад абумоўленага разьмеру і характару будынкаў на забудоўшчыка можа быць ускладзена абавязнасьць зрабіць зьмены і папраўкі паводле зацьверджанага пляну забудоўкі або па новай згодзе з камунальным аддзелам або замяняючым яго органам у дадзены для гэтага выстарчальны тэрмін (ня менш 1 будаўнічага сэзону).

За невыкананьне паказанага вышэй бярэцца няўстойка ў разьмеры ня больш 5% агульнага каштарыснага будаўнічага кошту ўсіх будуемых будынкаў. У выпадку-ж адмовы ад правядзеньня зьмен, няўстойка бярэцца ў суме кошту ўсіх будаўнічых работ, выкліканых парушэньнем, зазначаным у гэтым пункце.

Па п. „е“ (Тэрмін пачатку пабудоўкі).

Гранічны тэрмін пачатку пабудоўкі ўстанаўляецца на падставе ўвагі да арт. 73 Гр. Кодэксу. За парушэньне гэтае ўмовы можа быць вызначана няўстойка ў разьмеры ня звыш 10% каштарыснага будаўнічага кошту ўсіх будуемых будынкаў, а ў далейшым—у разьмеры 2 проц. будаўнічага кошту ўсіх будуемых будынкаў у месяц.

Па п. „ж“ (Тэрмін сканчэньня пабудоўкі).

У дагаворы вызначаецца тэрмін сканчэньня пабудоўкі (ня больш 4 год) і плян правядзеньня работ па будаўнічых сэзонах.

У выпадку нескончэньня сваечасова будаўнічых работ па віне забудоўшчыка можа быць дадзены для сканчэньня гэтых работ дадатковы тэрмін ня больш 1 будаўнічага сэзону, пасьля чаго ўстанаўляецца няўстойка ў разьмеры 5 проц. каштарыснага кошту нявыкананых работ.

Па п. „з“. (Умовы ўтрыманьня будынкаў у спраўным відзе).

У дагавор аб праве забудоўкі абавязкова ўносіцца ўмова аб утрыманьні будынкаў як перадаваемых забудоўшчыку, так і пабудаваных ім, у спраўным відзе з тым, што пры невыкананьні гэтага ў вызначаны камунальным аддзелам тэрмін, камунальны аддзел або замяняючы яго орган мае права рабіць за кошт забудоўшчыка рамонт, патрэбны для папярэджаньня зруйнаваньня будынку і спагнаць з забудоўшчыка кошт зробленага рамонту ў судовым парадку.

Па п. „і“ (Умовы страхаваньня будынкаў і аднаўленьне іх у выпадку зруйнаваньня).

Страхаваньне робіцца ў суме ня ніжэй ацэнкі, зробленай камунальным аддзелам або замяняючым яго органам; у выпадку зруйнаваньня пажарам усіх будынкаў або часьці іх—забудоўшчык абавязан іх аднавіць. У выпадку адказу забудоўшчыка застрахаваць будынкі ў паказаны камунальным аддзелам тэрмін, камунальны аддзел або замяняючы яго орган мае права застрахаваць будынкі за кошт забудоўшчыка.

Страхавыя полісы на будынкі, пабудаваныя забудоўшчыкам за яго кошт, а таксама і на будынкі, якія дадзены камунальным аддзелам або замяняючым яго органам забудоўшчыку для аднаўленьня або дабудоўкі іх, складаюцца на імя забудоўшчыка і захоўваюцца ў яго.

Згарэўшыя будынкі павінны быць адноўлены ў тым відзе, у якім яны былі да пажару, або па новаму праэкту, складзенаму забудоўшчыкам і зацьверджанаму камунальным аддзелам або замяняючым яго органам. Забудоўшчык павінен распачаць папраўку папсаваньняў, зробленых пажарам, і аднаўленьне згарэўшых будынкаў на працягу першага будаўнічага сэзону з часу атрыманьня страхавых сум і скончыць зазначаныя будаўнічыя работы да тэрміну ўстаноўленага камунальным аддзелам або замяняючым яго органам па згодзе з забудоўшчыкам.

За неаднаўленьне згарэўшых будынкаў устанаўляецца няўстойка ў суме страхавой прэміі, якая абавязкова ідзе на аднаўленьне згарэўшых будынкаў або часьці іх.

Па п. „к“ (Няўстойка ў выпадку пропуску тэрміну і іншых парушэньняў).

Няўстойка ўстанаўляецца ў выпадках і разьмерах, паказаных у пунктах „д“, „е“, „ж“, „з“ і „і“ гэтага артыкулу.

У выпадку невыкананьня забудоўшчыкам дагавору аб забудоўцы, камунальны аддзел або замяняючы яго орган падае іск аб выкананьні ўмоў дагавору і аб спагнаньні страт або няўстойкі ў разьмерах, прадугледжаных папярэднімі пунктамі.

16. У дагавор аб праве забудоўкі могуць быць унесены і другія ўмовы, якія не пярэчаць закону і праву забудоўкі, напр. засадзіць пэўны процант плошчы вучастку зялёнымі насаджэньнямі, абавязак пабудаваньня і ўтрыманьня ў спраўным відзе тратуараў і бруку у часьці, прылягаючай да вучастку, і інш.

У дагавор ня можа ўносіцца абавязнасьць здачы ў камунальны фонд часьці жылое плошчы на працягу тэрміну, на які гэта забараняецца законам,

## V. Аб вучоце забудоўшчыкаў.

17. Камунальныя аддзелы і замяняючыя іх органы павінны завесьці рэестравыя кнігі вучасткаў, аддадзеных на праве забудоўкі (форма дадаецца). Адначасна з рэестрам вучасткаў на праве забудоўкі вядуцца таксама і рэестры забудоўшчкаў з паказаньнем № запісу ўладаньня на рэестру вучасткаў.

Усякая зьмена палажэньня права забудоўкі (абцяжараньне залогам, адчужэньне, выдзел часьці вучастку) павінна адзначацца ў рэестры вучасткаў, здадзеных на праве забудоўкі.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Народны Камісар Юстыцыі БССР **М. Сегаль.**

Начальнік Кіраўніцтва Камунальнае
Гаспадаркі НКУС БССР **Г. Рубінштэйн.**

2 лютага 1927 г.

---

Дадатак да арт. 13 інструкцыі аб праве забудоўкі.

## Тэхнічная інструкцыя аб вызначэньні кошту будынкаў і патрэбнага рамонту.

1. Пачатковы кошт аднаго куб. мэтру будынку вызначаецца паводле табліцы № 1 (якая зьмешчана ніжэй), пры гэтым кошт паказаных у табліцы матар'ялаў і рабочай сілы вызначаецца паводле мясцовых даведачных цэн.

2. Надворную кубатуру будынкаў можна вызначыць па іх жылой карыснай плошчы, павялічваючы такую плошчу, узяўшы яе ў кв. мэтрах, для мураваных будынкаў на 30%, мешаных—на 25% і драўляных—на 20% і памножваючы такую павялічаную плошчу на 3,63 (мэтры) для ўсіх будынкаў.

3. Зазначаныя ў табліцы № 1 нормы кошту 1 куб. мэтру будынку лічацца сярэднімі для мураваных і драўляных.

4. Для іншых будынкаў устанаўляюцца наступныя каэфіцыэнты кошту ад асноўнай нормы сярэдняга мураванага, мешанага альбо драўлянага дому:

### А. ДРАЎЛЯНЫЯ БУДЫНКІ.

а) сярэдні драўляны дом з жалезным дахам на мураваным суцэльным падмурку, каэфіцыэнт—1,00;

б) таксама з гонтавым дахам, з падвалінай на драўляных альбо мураваных слупох з атынкаваньнем унутры, каэфіцыэнт —0,77;

в) таксама дом барачнага тыпу, каэфіцыэнт—0,45.

г) бярвенчатая пуня і склад са стольлю, падлогаю і жалезным дахам—0,44;

д) такая самая пуня спрошчанага тыпу бяз столі і падлогі—0,33;

е) павець, абітая з трох бакоў—0,17;

ж) дашчатая, альбо пласьцінная пуня, пакрытая гонтам альбо дорам—0,17;

з) павець адкрытая—0,11;

і) драўляны леднік—0,43;

к) уборныя месцы мешаныя—0,55;

л) „ “ драўляныя—0,15 (за кожнае ачко);

м) драўляныя ямы для сьмецьця—0,43.

## Б. МУРАВАНЫЯ БУДЫНКІ.

а) мураваны дом з сярэдняй апрацоўкай—1,00;

б) мураваны дом з апрацоўкай і цэнтральнай сыстэмай апалу—1,10;

в) мураваны дом з утэрмарцкімі пячамі без каналізацыі і вадаправоду—0,80;

г) мураваны леднік падземны альбо надземны з абсыпкай зямлёй, з бэтоннымі або мураванымі сьценамі—0,75;

д) мураваныя леднікі спрошчанага тыпу—0,60;

е) мураваныя ўборныя месцы—1,00 (за кожнае ачко);

ж) мураваныя ямы для сьмецьця—0,90;

5. Для вызначэньня пачатковага кошту аднаго з пералічаных у п. 4 будынкаў трэба кошт, вылічаны па табліцы № 1, памножыць на каэфіцыэнт, які адпавядае даннаму будынку па п. 4.

6. Ступень нармальнае зношанасьці будынкаў вызначаецца паводле табліцы № 2.

7. Для вызначэньня поўнага пачатковага кошту будынкаў, дапушчаючы, што ёк неразбураны па асобных пабочных прычынах, трэба кошт, вылічаны паводле табліцы № 1, памножыць на каэфіцыэнт будынку, паводле п. 4, і адкінуць з атрыманай лічбы процанты, зазначаныя ў табліцы № 2 паводле тэрміну нармальнае зношанасьці будынкаў.

8. Кошт дабудовы альбо аднаўленьня вызначаецца прыблізна процантнымі адносінамі кошту паасобных частак будынку да агульнага кошту яго, паводле табліцы № 3.

9. Сапраўдны кошт будынку ў час яго агляду, калі ёсьць асаблівыя разбурэньні, якія патрабуюць дабудовы альбо аднаўленьня будынку, вызначаецца вылікам з сумы кошту, атрыманай паводле п. 7, сумы кошту або аднаўленьня, атрыманай паводле п. 8.

10. З вынікаў, атрыманых паводле п. п. 8 і 9 гэтай інструкцыі, вызначаецца процантная адносіна каштоўнасьці дабудовы або аднаўленьня да агульнага сапраўднага (п. 9) кошту будынку ў час агляду для высьвятленьня, ці падыходзіць гэты процант да патрабаваньняў арт. 84 Грам. Кодэксу.

ТАБЛІЦА № 1.

Колькасьць матар'ялаў і рабочых для вызначэньня па існуючых цэнах кошту 1 куб. мэтру драўлянага і мураванага будынкаў (што таксама раўняецца кошту сярэдняга рамонту 10 куб. мэтраў памянёных будынкаў).

**Колькасьць матар'ялаў, патрэбная на 1 куб. мэтр драўляных будынкаў**

| Назва матар'ялаў | Колькасьць | Цана | Кошт |
|---|---|---|---|
| 1. Цэглы шт. . . . | 12,356 | | |
| 2. Цэманту клгр . | 0,843 | | |
| 3. Вапны „ . . | 3,373 | | |
| 4. Алябастру „ . . | 1,687 | | |
| 5. Крэйды „ . . | 0,219 | | |
| 6. Жалеза гатунк. | 0,422 | | |
| 7. Ляснога матар'ялу куб. мэтр . | 0,277 | | |
| 8. Пакосту клгр . | 0,169 | | |
| 9. Фарбы „ . . | 0,135 | | |
| 10. Пакульля „ . | 0,506 | | |
| 11. Лямцу „ . . | 0,169 | | |
| 12. Шкла скрынак | 0,003 | | |
| 13. Жалеза дах. клг. | 1,518 | | |
| 14. Гваздоў „ . | 0,337 | | |
| 15. Прыладу пячнога камплектаў . | 0,085 | | |
| 16. Прыладаўда вокан і дзьвярэй, камплектаў . . | 0,093 | | |
| 17. Рабочых розн . | 2,368 | | |
| 18. На падрыхтоўчыя работы і струмэнты 6% ад кошту 1 куб. мэтру. . . . . . | | | |
| 19. Тэхнічны нагляд 4% ад кошту 1 куб. мэтр . . . . | | | |
| 20. Страхкаса і інш 23% ад рабочай сілы . . . . . . | | | |
| Усяго кошт 1 куб. мэтру . . . . | | | |

**Колькасьць матар'ялаў, патрэбная на 1 куб. мэтр мураваных будынкаў**

| Назва матар'ялаў | Колькасьць | Цана | Кошт |
|---|---|---|---|
| 1. Цэглы шт. . . . | 77,224 | | |
| 2. Цэманту клгр . | | | |
| I норма . . . . | 1,687 | | |
| II „ . . . . | 16,869 | | |
| 3. Вапны 1 норма. | 30,360 | | |
| „ 2 „ . | 0,120 | | |
| 4. Алябастру клгр | 3,373 | | |
| 5. Крэйды „ . | 0,219 | | |
| 6. Жалеза гатунк. | 0,337 | | |
| 7. Лясн. мат. кб. м. | 0,117 | | |
| 8. Пакосту клгр. . | 0,135 | | |
| 9. Фарбы „ . . | 0,135 | | |
| 10. Пакульля „ . . | 0,084 | | |
| 11. Лямцу „ . . | 0,034 | | |
| 12. Шкла скрынак. | 0,002 | | |
| 13. Жалеза дах. клг. | 1,349 | | |
| 14. Гваздоў клгр. . | 0,253 | | |
| 15. Прыладу пячнога кампл. . . . . | 0,085 | | |
| 16. Прыладаў да вокан і дзьвярэй кампл. . . . . . . | 0,093 | | |
| 17. Рабочых розн. . | 3,192 | | |
| 18. На падрыхтоўчыя работы і струмэнты 6% ад кошту 1 куб. мэтру . . . . . . | | | |
| 19. Тэхнічны нагляд 4% ад кошту 1 кб. мэт. . . . . | | | |
| 20. Страхкаса і інш. 23% ад рабочай сілы . . . . . . . | | | |
| Усяго кошт 1 кб. мэт. пры 1 норме | | | |
| „ „ „ „ „ 2 „ | | | |

(Кошт 1 куб. сажня=кошту 1 куб. мэтру × на 4,55).

*Увага.* Для вылічэньня цаны рабочага дню (п. 17) падлічваецца сума штодзеннай заработнай платы, нескарыстанага водпуску, перадсьвяточных дзён і амартызацыі інструмэнту, як для простага рабочага цяжкай працы, так і для кваліфікаванага рабочага; атрыманыя сумы (як для простага рабочага цяжкай працы, так і для кваліфікаванага) складаюцца і дзеляцца на 2. Атрыманая лічба пакажа цану рабочага дню.

ТАБЛІЦА № 2.

## Нармальная зношанасьць будынкаў.

| Мураваныя будынкі | | Драўляныя будынкі | |
|---|---|---|---|
| Час існаваньня будынкаў | Зношанасьць у %% | Час існаваньня будынкаў | Зношанасьць у %% |
| Да 15 гадоў . . | 10 | Да 10 гадоў . . | 10 |
| „ 15—30 „ . . | 20 | „ 10—15 „ . . | 20 |
| „ 30—45 „ . . | 35 | „ 15—25 „ . . | 35 |
| „ 45—65 „ . . | 50 | „ 25—35 „ . . | 50 |
| „ 65—100 „ . . | 75 | „ 35—45 „ . . | 75 |
| звыш 100 „ . . | 80 | звыш 45 „ . . | 80 |

Калі становішча будынку відавочна не падыходзіць да паказаных у табліцы процантаў амартызацыі, ступень зношанасьці вызначаецца ацэншчыкам на месцы з высьвятленьнем прычын зьмены каэфіцыэнту.

Для службовых будынкаў ступень зношанасьці вызначаецца для новых: 0,00, для моцных—15%, пры сярэднім становішчы —0,40%, пры старым—75% і больш.

ТАБЛІЦА № 3.

Працантныя адносіны кошту дабудовы альбо аднаўленьня да агульнага пачатковага кошту будынку па табліцы № 1.

I. Для мураваных і мешаных будынкаў у процантных адносінах да агульнага кошту будынкаў:

| | З 1-м паверхам | З 2-мя паверхамі | З 3-мя паверхамі |
|---|---|---|---|
| | У проц. | У проц. | У проц. |
| Кошт падмурку . . . . | 6—8 | 6—7 | 4—6 |
| „ сьцен . . . . | 35—40 | 37—42 | 38—42 |
| „ дахаў . . . . | 12—16 | 8—12 | 5—8 |
| „ падлог і столяй . . . | 8—12 | 9—13 | 10—14 |
| „ пячэй . . . . | 5—8 | 6—8 | 7—9 |
| „ тынкаваньня . . . . | 10—12 | 11—13 | 12—14 |
| „ акраскі . . . . | 1—2 | 1—2 | 1—2 |
| „ вокан і дзьвярэй . . . | 8—12 | 9—12 | 10—12 |
| „ шкляных работ . . . | 1—2 | 1—2 | 1—2 |
| „ розных „ . . . . | да 2% | да 2% | да 3% |

II. Для драўляных будынкаў (жылых) у процантных адносінах да агульнага кошту будынку:

| | З 1-м паверхам | З 2-мя паверхамі |
|---|---|---|
| | У проц. | У проц. |
| Кошт падвалін (фундаманту) . . . | 6—12 | 5—10 |
| „ сьцен . . . . . . . | 23—32 | 30—35 |
| „ дахаў . . . . . . . | 15—20 | 10—15 |
| „ столяй і падлог . . . . . | 10—15 | 12—16 |
| „ пячэй . . . . . . . | 7—10 | 8—10 |
| „ астатн. ўнутранага абсталяваньня і апрацоўкі . . . . . . | 20—25 | 22—27 |

Кошт цэнтральнага апалу да агульнага кошту будынку складае ў сярэднім для мураваных будынкаў з адным паверхам 8—15, з некалькімі паверхамі—7—12, для драўляных з 1-м паверхам—10—20% і з 2-мя паверхамі—8—16%.

Кошт вадаправоду і каналізацыі ў драўляных дамох у сярэднім ад 5 да 15%, у мураваных—4—10% агульнага кошту будынку ў залежнасьці ад ліку паверхаў, яго кошту, канструкцыі і апрацоўкі.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі**.

Нач. Кіраўніцтва Камунальнае Гаспадаркі НКУС **Г. Рубінштэйн**.

Загадчык Будаўнічага

Аддзелу ККГ НКУС Інжэнэр **С. Ашчэўскі-Круглік.**

Дадатак да арт. 17 Інструкцыі аб праве забудоўкі.

Форма 1-ая.

# Р Э Е С Т Р
## вучасткаў, аддадзеных на праве забудоўкі.

| №№ па парадку | №№ вучасткаў | Прозьвішча забудоўшчыка, яго імя і імя па бацьку. | Падрабязнае апісаньне ўладаньняў, месца знаходжэньне іх, апісаньне меж, разьмер іх у мэтрах у даўжыню і шырыню, якія знаходзяцца будынкі. | Характар і разьмер будынкаў, якія павінны быць пабудаваны. | Зьвесткі аб дагаворы, тэрмін дзейнасьці дагавору, з якога і да якога часу тэрмін пачатку пабудаваньня і тэрмін сканчэньня пабудаваньня. | Далейшыя зьмены ў праве забудоўкі (залог, адчужэньне). |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | |

Форма 2-ая.

## РЭЕСТР ЗАБУДОЎШЧЫКАЎ.

| №№ па парадку. | Прозьвішча забудоўшчыка, яго імя і імя па бацьку. | Старонка запісу ў рэестры | №№ запісу ў рэестры | У В А Г А |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

ЗАЦЬВЯРДЖАЮ.
Старшыня Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР
М Карклін.
3 лютага 1927 г.

## 6. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР

АБ УЖЫВАНЬНІ ПАСТАНОВЫ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР ЗА 10 МАЯ 1926 г. „АБ ПАРАДКУ ЗДАЧЫ Ў АРЭНДУ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, ПАДПАРАДКАВАНЫХ АКРУГОВЫМ І РАЁННЫМ ВЫКАНАЎЧЫМ КАМІТЭТАМ“ (Збор ЗАКОНАЎ І ЗАГАДАЎ БССР ЗА 1926 г № 20, АРТ. 74) *).

Пры здачы ў арэнду прадпрыемстваў, падпарадкаваных акруговым і раённым выканаўчым камітэтам, належыць кіравацца наступнымі правіламі:

1. Да прадпрыемстваў, эксплёатацыя якіх выканаўчымі камітэтамі можа быць прызнана немэтазгоднай і якія могуць быць зданы ў арэнду, адносяцца:

а) бязьдзейныя прадпрыемствы—пры адсутнасьці ўласных сродкаў для іх аднаўленьня і пуску ў ход;

б) дзейныя (дэфіцытныя і недэфіцытныя, але не даючыя прыбытку) пры ўмове, калі яны патрабуюць значных выдаткаў на тэхнічнае абсталяваньне і ўдасканаленьне, а сродкаў на гэта няма.

*Увага.* Пры здачы ў арэнду млыноў неабходна, апроч таго, кіравацца інструкцыяй Эканамічнае Нарады за 6-га лістапада 1926 г. (Бюлетэнь СНК БССР 1926 г. № 15 (24).

2. Гранічны тэрмін арэнды—12 год—можа ўжывацца пры здачы ў арэнду толькі тых прадпрыемстваў, якія патрабуюць значных грашовых сродкаў на аднаўленьне, абсталяваньне, пашырэньне або ўдасканаленьне іх; у іншых выпадках тэрмін арэнды павінен быць менш працяжным і пастаўлен у залежнасьць ад разьмеру ўскладаемых на арандатара затрат і магчымага тэрміну іх пагашэньня.

3. У пастанове аб здачы прадпрыемства ў арэнду павінны быць пунктуальна паказаны падставы мэтазгоднасьці здачы яго ў арэнду (§ 1), з пералічэньнем адпаведных данных, і паказан разьмер арэнднай платы, з якой павінен пачацца торг.

4. Для вызначэньня ўмоў здачы прадпрыемства ў арэнду, разьмеру і коштоўнасьці даабсталяваньня, капітальнага і бягучага рамонту, а таксама разьмеру мінімальнай арэнднай платы (з якой павінен пачацца торг) у залежнасьці ад выдаткаў арандатара, адлічэньняў на амартызацыю і мяркуемага чыстага прыбытку, назначаецца камісія ў складзе старшыні—прадстаўніка камунальнага аддзелу і членаў: прадстаўніка аддзелу грашовых спраў (грашовай часткі) і спэцыялістага-тэхніка.

5. Камісія, якая праводзіць таргі (арт. 5 пастановы СНК) загадзя прымае меры да шырокага паведамленьня аб таргах на здачу ў арэнду прадпрыемства і не пазьней, чым за 2 тыдні, вывешвае абвестку ў самым прадпрыемстве, у памяшканьні выканаўчага камітэту і ў іншых мясцох, дзе будзе прызнана камісіяй патрэбным, пры гэтым аб таргох на здачу ў арэнду прадпрыемстваў з арэнднай

*) Выдана на падставе арт. 9 пастановы СНК БССР за 10 мая 1926 г.

платай ня ніжэй, як 500 руб. у год, абавязкова павінна рабіцца пуб-
лікацыя ў мясцовай або цэнтральнай газэце.

У абвестках ці публікацыях павінна быць паказана: а) дзень,
гадзіна і месца правядзеньня таргоў, б) кароткае апісаньне здавае-
мага ў арэнду прадпрыемства, в) тэрмін арэнды і разьмер арэнднай
платы, з якой пачнецца торг, г) кошт капітальнага рамонту, а так-
сама абавязнасьці па аднаўленьню, пашырэньню, тэхнічнаму абста-
ляваньню і ўдасканаленьню прадпрыемства, якія ўскладаюцца на
арандатара, д) разьмер падлягаючага ўнясеньню да таргоў залогу
(арт. 8 пастановы СНК), які ня можа быць менш 10 проц. гадавой
арэнднай платы, е) паказаньне аб тым, дзе і ў якія гадзіны можна
азнаёміцца з падрабязнымі ўмовамі арэнды.

*Увага.* З дню абвяшчэньня аб таргох, у месцы, назначаным для
правядзеньня таргоў, павінны быць дадзены для азнаямленьня
жадаючых таргавацца: а) опіс здаваемага ў арэнду прадпры-
емства і б) падрабязныя кандыцыі (умовы здачы ў арэнду).
Асобам, жадаючым агледзець здаваемае ў арэнду прадпрыем-
ства, павінна быць дадзена гэта магчымасьць.

6. Кандыцыі зацьвярджаюцца прэзыдыумам выканаўчага камітэту
і ня могуць зьмяняцца камісіяй, праводзячай таргі.

У кандыцыях павінны быць прадугледжаны ўсе патрабаваніні
Гр. Кодэксу, датычныя здачы ў арэнду дзяржаўных прадпрыемстваў
і ў прыватнасьці павінна быць ўключана:

а) абавязнасьць выкарыстоўваць прадпрыемства па простаму
прызначэньню з забаронай прыстасоўваць яго для другіх мэт;

б) мінімальны разьмер прадукцыі і тэрмін, у працягу якога ён
павінен быць дасягнут;

в) абавязкі арандатара ў адносінах работ па рамонту, аднаў-
леньню, пашырэньню, тэхнічнаму абсталяваньню і ўдасканаленьню
прадпрыемства;

г) пунктуальныя тэрміны і найменьне падлеглых выкананьню
работ і права здатчыка правяраць ажыцьцяўленьне іх;

д) калі на арандатара ўскладаецца абавязацельства абсталяваць
прадпрыемства, павінен быць паказан дапусьцімы процант зносу ма-
шын і абсталяваньня к моманту здачы іх арандатарам, г. з. к канцу
тэрміну арэнды;

е) забясьпекі і гарантыі (вынікі парушэньняў);

ж) пунктуальнае выкананьне арандатарам правіл па ахове пра-
цы, якія вынікаюць з існуючага законадаўства, таксама і тых, якія
могуць быць выданы;

з) права скасаваньня дагавору ў выпадку драпежніцкіх адносін
арандатара да арандуемага прадпрыемства і невыкананьня ў тэрмін
прынятых на сябе абавязкаў.

7. Дагаворы на зданыя з таргоў у арэнду прадпрыемствы зак-
лючаюцца ад імя падлеглых акруговых і раённых выканаўчых камі-
тэтаў іх органамі камунальнае гаспадаркі натарыяльным парадкам,
паводле арт. 153 Гр. Кодэксу.

8. Пасьля сканчэньня тэрміну дагавору або пасьля датэрмінова га скасаваньня яго, прыёмка прадпрыемства ад арандатара робіцца з абавязковым складаньнем акту аб стане прэдпрыемства і ступені выкананьня арандатарам абавязацельстваў па дагавору.

Народны Камісар Унутраных
Спраў БССР **А. Сташэўскі**.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнае Гаспадаркі БССР **М. Міленькі.**

3 лютага 1927 г.

---

Выданы на падставе арт. 13 і ў разьвіцьцё арт. 73 Вэтэрынарнага Статуту БССР, а таксама на падставе пастановы СНК БССР за 29/XI—1926 г. аб санітарных органах Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя (З. З, БССР 1926 г, № 37, арт. 137) і ў разьвіцьцё §§ 1 і 4 тае-ж пастановы.

## 7. Правілы Народнага Камісарыяту Земляробства, Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### АБ ВЭТЭРЫНАРНА-САНІТАРНЫМ НАГЛЯДЗЕ ЗА ПРЫВОЗНЫМ МЯСАМ І МЯСНЫМІ ПРАДУКТАМІ НА АБШАРЫ БССР.

§ 1. Усё прывазімае ў гарады і мястэчкі па чыгунках і іншых шляхох зносін мяса ў параным, марожаным, соленым, копчаным і іншым відзе (гавядзіна, сьвініна, бараніна, цяляціна і інш.) у цэлых тушах, паўтушах і чвэрцях туш, а таксама каўбасы, сьвіное сала і сьвініна кумпякамі, грудзінкамі, лапаткамі і інш., уся бітая птушка, дзіч, а таксама збой і яго часьці да паступленьня ў продаж павінны быць агледжаны вэтэрынарна-санітарным наглядам, а сьвіное мяса апрача таго падлягае трыхінаскапічнаму дасьледаваньню, пры гэтым калі дзе для гэтага ёсьць спэцыяльныя заклады (разьніцы, станцыі для агляду прывознага мяса) агляд робіцца ў гэтых закладах.

*Увага.* Прывознае мяса і іншыя прадукты забою, абсьледаваныя на месцы зарэзу жывёлы, і маючыя ўстаноўленыя адзнакі гэтага агляду (вэтэрынарны штэмпель), на месцы прызначэньня падлягаюць толькі кантрольнаму агляду для ўстанаўленьня наяўнасьці і сапраўднасьці штэмпеляў і вызначэньня годнасьці мясных прадуктаў адносна іх сьвежасьці і непапсаванасьці.

§ 2. Прывознае мяса ад жывёлы, зарэзанай не ў разьніцах, павінна быць дастаўлена для вэтэрынарна-санітарнага агляду цэлымі тушамі, пры гэтым з тушамі павінны знаходзіцца ў прыроднай сувязі пляўра, брушына, лёгкае, сэрца і ныркі, а ў кароў—і вымя. Такое прывезенае для дасьледаваньня мяса павінна быць забясьпечана пасьведчаньнем сельскага савету, у якім павінна быць адзначана, што мяса паходзіць ад здаровай па віду жывёлы; таксама ў пасьведчаньні павінна быць паказана ў якім сяле або вёсцы зарэзана жывёла і чаму яна ня была агледжана да зарэзу і пасьля зарэзу вэтэ-

рынарным доктарам (вэтэрынарным фэльчарам); у адваротным выпадку мяса падлягае затрыманьню.

§ 3. Прывознае мяса, дастаўляемае зімою ў замарожаным відзе, паходзячае ад жывёлы, зарэзанай у іншых разьніцах, можа быць дастаўлена і ня цэлымі тушамі і бяз нутра, але павінна быць забясьпечана пасьведчаньнем вэтэрынарнага доктара (вэтэрынарнага фэльчара) аб аглядзе жывёлы жывою і мець выразны штэмпель ці плёмбу вэтэрынарнага нагляду разьніц на кожнай часьці тушы.

§ 4. Прывознае сьвіное мяса (сьвяжына), соленае, копчанае ці вяленае, апроч устаноўленых штэмпляў ці плёмб вэтэрынарнага нагляду разьніц павінна быць забясьпечана таксама і пасьведчаньнем аб праведзеным трыхінаскапічным дасьледаваньні. Усе тушы павінны дастаўляцца бяз кішак і ў добра разабраным відзе.

§ 5. Усе прывозныя мясныя прадукты павінны быць забясьпечаны пасьведчаньнем аб тым, што пошасных хваробаў жывёлы ў месцы вывазу прадуктаў няма; пасьведчаньні гэтыя могуць выдавацца пры адсутнасьці вэтэрынарнага доктара—мясцовай уладай.

§ 6. Вэтэрынарны доктар—загадчык станцыі нагляду за прывозным мясам, кіруе працай станцыі і робіць дасьледваньні мясных прадуктаў, для чаго ў выпадку патрэбы ім бяруцца спробы кольkасьцю ня больш 250 грамаў.

§ 7. Мяса, тушы і часьці іх з падазрэньнем на сібірскую язву затрымліваюцца ў асобным памяшканьні да атрыманьня вынікаў бактэрыёлёгічнага дасьледаваньня ўзятых ад іх спроб.

§ 8. Усякія падробкі прывознага мяса для наданьня яму лепшага выгляду і захаваньня сьлядоў хваробы, шпікаваньне ці намаражваньне вадою, надзіманьне, зьдзіраньне сярозных абалочак, вырэзваньне лімфатычных залоз і вялікіх крывяходных жыл забараняецца. Цяляты могуць прывозіцца толькі ў тым выпадку, калі ў іх пупочны канацік ужо засох.

§ 9. На тушы прызнаныя вэтэрынарна-санітарным аглядам і дасьледаваньнем годнымі для яды людзям, накладаецца штэмпель сіняга колеру ўстаноўленай формы.

§ 10. Мяса, прызнанае ўмоўна годным для яды, дапушчаецца ў продаж пасьля папярэдняга абеззаражваньня (стэрыялізацыі), згодна правіл вэтэрынарна-санітарнага агляду за зарэзнаю жывёлаю і дасьледаваньня і бракоўкі мясных прадуктаў. Пры адсутнасьці адпаведных прылад для абеззаражваньня ўмоўна-годныя мясныя прадукты падлягаюць зьнішчэньню.

§ 11. Калі мяса прызнана пасьля вэтэрынарна-санітарнага агляду нягодным для яды, то яно накіроўваецца для скарыстаньня з тэхнічнаю мэтаю на ўтылізацыйны завод; у выпадку адсутнасьці такога заводу мясныя прадукты і скуры падлягаюць зьнішчэньню, пры гэтым яны за сродкі ўласьнікаў іх перавозяцца на жывёлавыя могільнікі, дзе спальваюцца ці закопваюцца ў зямлю, будучы папярэдня абліты газаю, вапняным малаком, неачышчанай карболавай або сернай кіслатой.

§ 12. Колькасьць штэмпляў на тушах буйнае рагатае жывёлы і сьвіней павінна быць ня менш 20, а на тушах бараноў і цялят—ня менш 6.

§ 13. Продаж і купля мяса, ня маючага на сабе адзнак вэтэрынарнага агляду (штэмпляў), забараняецца.

§ 14. Унутраныя органы могуць дапушчацца ў продаж толькі ў старанна прамытым і апрацаваным відзе.

§ 15. Правядзеньне ў жыцьцё і нагляданьне за дакладным вы-

кананьнем гэтых правіл ускладаецца на міліцыю, сельскую ўладу, вэтэрынарны нагляд і санітарныя арганізацыі Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя.

§ 16. Асобы, вінаватыя ў парушэньні зазначаных вышэй правіл, падлягаюць адказнасьці ў парадку арт. арт. 219 і 86 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька**.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў**.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі**.

Начальнік Вэтэрынарнага Кіраўніцтва НКЗ БССР **П. Серпаў**.

17 лістапада 1926 г.

---

## 8. Выпіс з пастановы Народнага Камісарыяту Асьветы БССР за 3-га лютага 1927 г. № 49

АБ СКЛІКАНЬНІ І-ГА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА ЗЬЕЗДУ ІЗБАЧОЎ.

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:

1. Склікаць на панядзелак, 14-га сакавіка 1927 году ў г. Менску Першы Ўсебеларускі Зьезд Ізбачоў.

3. Запрапанаваць Зьезду наступны парадак дню:

а) Задачы Камуністычнае партыі на вёсцы (дакладчык ад ЦК КП(б)Б).

б) Становішча і задачы палітасьветнае працы ў вёсцы (дакладчык—Старшыня ГПА) і садаклад ЦК ЛКСМБ—Роля Камсамолу ў вясковай палітасьветнай працы (дакладчык ад ЦК ЛКСМБ).

4. На Зьезде ўтварыць наступныя сэкцыі: арганізацыйную, масавую, школьную, па самаадукацыі, бібліатэчную, агра-каапэрацыйную.

5. У арганізацыйнай сэкцыі разабраць наступныя пытаньні: а) кіраўніцтва палітыка-асьветнай працай ў раёне, б) пабудова пляну хаты-чытальні і кіраўніцтва чырвоным кутком, в) вучот настрою і запытаньняў насельніцтва вёскі і г) пытаньні падліку працы. Падрыхтоўка матар'ялаў па гэтай сэкцыі ўскладаецца на т. Хвасьцюка.

6. У масавай сэкцыі разабраць гэтакія пытаньні: а) масавая праца хаты-чытальні і чырвонага кутка (даклад. Заг. Магілёўскага Акрпалітасьветы т. Сафонаў), б) мастацкая праца хаты-чытальні (дакл т. Ляжневіч), в) кіно і радыё ў вёсцы (дакл. т. Кацэнэльсон), г) аб антырэлігійнай прапагандзе (дакл. т. Шукевіч-Трэцьцякоў).

Падрыхтоўка матар'ялаў па гэтай сэкцыі ўскладаецца на заг. Магілёўскага Акрпалітасьветы тав. Сафонава.

7. У школьнай сэкцыі разабраць наступныя пытаньні: а) лікпункт, школа малапісьменных і хата-чытальня (дакл. т. Аніхоўскі), б) школы рабочае моладзі ў мястэчках і вячэрнія школы сялянскае моладзі (дакл. т. Башкевіч), в) падрыхтоўка і самападрыхтоўка ізбачаў (дакл. заг. Магілёўскай Сав. парт. школы т. Пераход).

Падрыхтоўка матар'ялаў па гэтай сэкцыі ўскладаецца на т. Аніхоўскага.

8. У сэкцыі па самаадукацыі разглядзець наступныя пытаньні: а) арганізацыя самаадукацыйнай працы ў вёсцы (дакл. т. Капаевіч), б) праграмна-мэтадычныя пытаньні (дакладчыкі т. т. Ляскоўскі і Раманчук).

Падрыхтоўка матар‘ялаў па гэтай сэкцыі ўскладаецца на т. Ляскоўскага.

9. У бібліатэчнай сэкцыі разглядзець пытаньні: 1) арганізацыя бібліатэчнай працы ў вёсцы (дакл. Загад. Рэчыцкага Акрпалітасьветы т. Шыфрын), 2) асноўныя моманты прапаганды кнігі ў вёсцы (дакл. т. Сеўрук), 2) актыў чытачоў у вёсцы (дакл. т. Сіманоўскі).

Падрыхтоўка матар‘ялаў па гэтай сэкцыі ўскладаецца на т. Шыфрына.

10. У агра-каапэрацыйнай сэкцыі разгледзець наступныя пытаньні: а) сельска-гаспадарчая праца хаты-чытальні (дакл. прадстаўнік НКЗему), б) каапэрацыйная праца хаты-чытальні (дакл. ад Белкаапсаюзу), в) распаўсюджваньне тэхнічных ведаў (дакл. т. Серафімаў).

Падрыхтоўка матар‘ялаў па гэтай сэкцыі ўскладаецца на Заг. Менск. Акрпалітасьветы т. Серафімава.

11. Зьезд разьлічыць на чатыры дні. Парадак працы зьезду намеціць наступны: а) адчыненьне зьезду і першы даклад—½ дня, б) даклад Старшыні ГПА, садаклад ЦК ЛКСМБ і спрэчкі на іх—адзін дзень, в) праца сэкцый—адзін дзень, г) экскурсіі—адзін дзень, д) заключны пленум і інфармацыя газэты „Белар. Вёска“—½ дня.

13. Пры Зьездзе арганізаваць выстаўкі: а) насьценных газэт, б) мэтадычнай і сялянскай літаратуры і в) становішча палітасьветнай працы на мясцох.

Пры Зьездзе арганізаваць таксама куток радыё і паказальную хату-чытальню пры Пушкінскай бібліатэцы. Арганізацыю апошняй ўзлажыць на Менскі Акр. АНА.

14. Разьмеркаваньне ліку дэлегатаў па акругах, аплату выдаткаў па якіх бярэ на сябе Народны Камісарыят Асьветы, зрабіць наступнае:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Загадчыкаў хат-чытальнь | Заг. народных дамоў | Прадстаўнікоў Раёнпалітасьветных камісій | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Гомельская | 23 | — | 1 | 24 |
| 2 | Рэчыцкая | 23 | — | 1 | 24 |
| 3 | Менская | 11 | 11 | 1 | 23 |
| 4 | Віцебская | 11 | 11 | 1 | 23 |
| 5 | Магілёўская | 10 | 9 | 1 | 20 |
| 6 | Барысаўская | 9 | 8 | 1 | 18 |
| 7 | Бабруйская | 10 | 11 | 1 | 22 |
| 8 | Аршанская | 9 | 10 | 1 | 20 |
| 9 | Полацкая | 9 | 9 | 1 | 19 |
| 10 | Калінінская | 9 | 10 | 1 | 20 |
| 11 | Мазырская | 9 | 10 | 1 | 20 |
| 12 | Слуцкая | 9 | 7 | 1 | 17 |
| | Разам | 142 | 96 | 12 | 250 |

15. Прысутнасьць на Зьезде загадчыкаў Акруговых Адзелаў Палітычнае Асьветы абавязкова. Выдаткі па іх паездцы бярэ на сябе Акруговы Аддзел Народнае Асьветы.

16. Вызначаны лік дэлегатаў на кожную акругу можа быць павялічаны толькі за кошт самое акругі.

17. На зьезд павінны камандыравацца больш падрыхтаваныя загадчыкі хат-чытalень, маючыя пэрспэктыву ў далейшай працы па гэтай галіне.

18. Абавязковы прыезд усіх загадчыкаў нардамоў, а з Гомельскай і Рэчыцкай акруг—загадчыкаў валасных хат-чытальень.

19. Нар. Кам. Асьветы бярэ на сябе аплату дарогі (§ 14) у два канцы чыгункі і хурманак, харчаваньне і кватэру на час працы Зьезду. Акрамя вызначаных, Н. К. Асьветы ніякіх выдаткаў на сябе ня бярэ, аб чым мясцом папярэдзіць усіх дэлегатаў. Разрахункі па падарожжы дэлегатаў робяцца Грашова-Гаспадарчым Аддзелам Н.К.Асьветы.

Арыгінал за належнымі подпісамі:

Выпіс правільны:
Сэкратар Рэдакцыйнае Калегіі
Бюлетэню СНК БССР **В. Крускоп.**

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### АБ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНІ НАКАЗУ АБ ВЯЧЭРНІХ ДЗІЦЯЧЫХ ПАКОЯХ.

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:
Зацьвердзіць далучаны да гэтага наказ аб арганізацыі вячэрніх дзіцячых пакояў для дзяцей дашкольнага ўзросту.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Загадчык Агульнага
Аддзелу НКА БССР **Ю. Савіч.**

5 лютага 1927 г.
№ 50.

Дадатак да пастановы Н.К Асьветы БССР ад 5 лютага 1927 г. № 50.

## Наказ аб арганізацыі вячэрніх дзіцячых пакояў для дзяцей дашкольнага ўзросту.

1. Вячэрнія дзіцячыя пакоі адчыняюцца з мэтай аслабаненьня матак работніц ад клапот па нагляду за дзяцьмі, каб даць магчымасьць маткам прымаць удзел у грамадзкай працы ці працы ўгуртках і ў разумным адпачынку ў клюбах.

2. Вячэрнія дзіцячыя пакоі адчыняюцца пры клюбах, жылтаварыствах, прадпрыемствах, пры дамох-камунах і рабочых пасёлках і могуць быць пастаянна-функцыянуючыя і часова-функцыянуючыя. У першых павінны быць пастаянныя кіраўнікі, а ў другіх могуць па чарзе дзяжурыць маткі.

3. Узрост дзяцей можа быць ад 3-х да 7-мі гадоў, лік дзяцей на адну кіраўнічку ў пастаянна функцыянуючых пакоях павінен быць ня больш 20.

4. Крыніцамі, адкуль чэрпаюцца сродкі для арганізацыі вячэрніх дзіцячых покояў, павінны быць наступныя: а) фонд палепшаньня быту рабочых, б) сродкі клюбу, в) культ-фонд жылтаварыстваў.

*Увага.* Вялікаю дапамогаю ў існаваньні дзіцячых пакояў служыць самадзейнасьць матак (дзяжурствы матак, дапамога ў арганізацыі і інш.).

5. Вячэрнія дзіцячыя пакоі арганізуюцца па ініцыятыве праўленьня клюбу, культурна-асьветных камісій, жыльлёвых таварыстваў і фабрычна-заводзкіх камітэтаў. Пры прыёме дзяцей вядзецца рэгістрацыя іх, дзе адзначаецца: імя, прозьвішча, узрост дзіцяці, сацыяльны стан, род заняткаў маткі.

6. Дзіцячыя вячэрнія пакоі функцыянуюць 3--4 гадзіны: ад 5—6 да 9—10 гадзін увечары штодня там, дзе ёсьць умовы для іх арганізацыі і пэрыядычна там, дзе няма гэтых умоў. У апошнім выпадку дзіцячыя пакоі павінны быць адчынены ня толькі ў дні рэвалюцыйных сьвят, але і ў дні дэлегацкіх сходаў, заняткаў гурткоў і г. д.

7. Аб усіх вячэрніх дзіцячых пакоях даводзіцца да ведама Акруговага Аддзелу Народнае Асьветы.

8. Для вячэрняга дзіцячага покою павінен быць прадастаўлен, па магчымасьці, асобны пакой, чысты, з вэнтыляцыяй, які ні ў якім выпадку ня можа быць прахадным. Уборная павінна быць, па магчымасьці, прыстасавана для дзяцей.

9. Абсталяваньне павінна быць па тыпу дзіцячага саду. Мінімальны сьпіс абсталяваньня наступны: 1) 2 доўгіх сталы (даўжыня $2^1/_2$ арш.), 2) 3 столікі індывідуальных, 3) 25 крэслаў, 4) паліцы для прылад і матар'ялаў, 5) почапак для вопраткі, 6) почапак для рушнікоў, 7) рукамыйнік, 8) вядро для рукамыйніка, 9) рушнікі, мыла, сьціркі, шчоткі, савочкі і інш. дробязь.

10. Матар'яламі і прыладамі зьяўляюцца: алоўкі, ножніцы, перачынныя ножыкі, клей, пясок, гліна, краскі, кістачкі, папера белая, каляровая, кніжкі з малюнкамі, лато, даміно і г. д.

11. Ня трэба даваць дзецям матар'ялаў, якія выклікаюць зьнішчэньне дзіцячай энэргіі, як малаткі, пілы, барабаны, ударныя аркестры і г. д.

12. У аснову пэдагагічнай працы з дзецьмі кладзецца, галоўным чынам, ахова спакою дзіцяці, якое прыходзіць ў дзіцячы вячэрні пакой ужо замораным за дзень. Выходзячы з гэтага павінен быць распрацаваны адпаведны парадак працы з дзецьмі, падыходзячы асьцярожна да выбару заняткаў і матар'ялаў для дзяцей. Усе заняткі павінны быць арганізаваны такім чынам, каб не ўзбуджваць і не launch стамляць дзяцей.

13. Апроч заняткаў з матар'яламі у вячэрніх дзіцячых пакоях праводзяцца апавяданьні, сьпевы, спакойныя гульні, слуханьне музыкі, рытміка ў даступнай гэтым дзецям меры і форме. Гульні, якія ўзбуджаюць дзіця, не рэкамэндуюцца.

14. Праз праўленьне клюбу, праз культурна-асьветныя камісіі жыльлёвых таварыстваў, фабрычна-заводзкіх камітэтаў, пры блізкім удзеле кіраўнічкі пакою вядзецца праца з маткамі ў мэтах уцягненьня работніц у грамадзкую працу.

15. Кіраўнічка праводзіць рэгулярна бацькоўскія сходы, дзе ставяцца пытаньні выхаваньня і аздараўленьня дзяцей, дзе вядзецца прапаганда ідэй дашкольнага выхаваньня і інш.

16. Для шырокага азнаямленьня члена клюбу ці жыльлёвых

таварыстваў з працай дзіцячага пакою, утвараюцца дзіцячыя раніш-нікі, прыстасаваныя да асноўных грамадзка-рэвалюцыйных момантаў як, напр.: Кастрычнікавая рэвалюцыя, Ленінскія дні, 8-е сакавіка, 1-ае мая.

ЛІТАРАТУРА: Віленская—„Дашкольнае выхаваньне і 8 сакавіка“; Нюрына—„Дашкольнае выхаваньне і работніца“; Астроўская—„Дашкольнае выхаваньне і каапэрацыя“; Зорына—„Што такое дзіцячы сад і як яго арганізаваць“ і „Асноўныя палажэньні пэдагагічнай працы ў дашкольнай установе“; Сураўцова і Тараханава—„Вынікі пэдагагічнай працы“; Прушыцкая—„Дашкольнае выхаваньне і сучаснасьць“; Руднёў—„Камсамол, гатоў трэцюю зьмену“; і „Галоўныя моманты дашкольнага выхаваньня“ выданьне Дашкольнай сэкцыі Н. К. Асьветы БССР; „Асьвета“ №№ 3 і 7 1925 г., №№ 3, 4 і 8 1926 г; Альмэндынген—„У дапамогу дашкольнаму выхаваньню“.

Загадчык Галоўнай Управы Сацыяльнага
Выхаваньня Н. К. Асьветы БССР **І. Мазур**.

Загадчык Культаддзелу Савету
Прафэсыянальных Саюзаў Беларусі **Г. Конанаў**.

За Старшыню Беларускага Саюзу
Жыльлёвай Каапэрацыі **Я. Барткевіч**.

---

## 10. Інструкцыя па каапэраваньню беднаты Камітэтамі Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі.

Для ўзмацненьня бядняцкіх сялянскіх гаспадарак і аб'яднаньня беднаты з серадняком праз каапэраваньне, Камітэтам Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі, як масавай арганізацыі, патрэбна прыняць самы актыўны ўдзел у праводзімай партыяй і Савецкай уладай працы па каапэраваньню беднаты.

Каб атрымаць у гэтай галіне належныя вынікі і каб паставіць гэтую працу на належную вышыню, Камітэты Сялянскай Узаемадапамогі павінны выканаць наступнае:

1. Камітэты Сялянскае Ўзаемадапамогі абавязкова выяўляюць усю беднату і складаюць сьпісы бядняцкіх гаспадарак, якія яшчэ не каапэраваны, але якія, па погляду Камітэту Сялянскае Ўзаемадапамогі, трэба каапэраваць.

2. Складзеныя сьпісы разглядаюцца на пасяджэньні сельскіх камітэтаў пры ўдзеле сельскіх упаўнаважаных тых вёсак, беднякі з якіх унесены ў сьпісы, і разьмяркоўваюцца для каапэраваньня іх на чаргі: якія трэба каапэраваць у першую чаргу і якіх у другую, а таксама ў сьпісах адзначаецца каго, у якую каапэрацыю запісаць; у сельска-гаспадарчую або ў спажывецкую.

3. У першую чаргу трэба каапэраваць самых актыўных беднякоў, якія цікавяцца ўзмацненьнем каапэрацыі, а ў другую чаргу апошніх.

4. Пасьля разьмеркаваньня сьпісаў на чаргі па каапэраваньню і па відах каапэраваньня і зацьверджаньня гэтых сьпісаў сельскім камітэтам узаемадапамогі трэба разам з органамі каапэрацыі склікаць беднату, якая будзе каапэравацца, на сход, на якім растлу-

мачыць мэты каапэраваньня і карысьць ад гэтага для бядняцкіх гаспадарак.

5. Зацьверджаныя сельскім камітэтам сьпісы перадаюцца ў кіруючыя органы тэй каапэрацыі, для каапэраваньня па якой разьмеркаваны бядняцкія гаспадаркі. Камітэты Сялянскае Ўзаемадапамогі павінны сачыць у каапэрацыйных органах, каб паказаныя ў сьпісах гаспадаркі былі хутчэй каапэраваны.

6. Сродкі на каапэраваньне бядняцкіх гаспадарак для ўнясеньня паёў адлічваюцца каапэрацыйнымі органамі ад сваіх прыбыткаў, а Камітэтам Сялянскае Ўзаемадапамогі трэба сачыць, каб гэтыя сродкі сваечасова былі скарыстаны па прызначэньню.

7. Камітэтам Сялянскае Ўзаемадапамогі трэба адшукаць на мясцох сродкі для ўнясеньня ўступных узносаў у каапэрацыйныя арганізацыі за тых беднякоў, якія самі ня маюць сродкаў для ўнясеньня ўзносаў.

8. Камітэты Сялянскае Ўзаемадапамогі павінны прымаць удзел у кіруючых органах каапэрацыі пры складаньні плянаў па каапэраваньню беднаты, а таксама і дапамагаць гэтым органам праз высьвятленьне сярод бядняцкіх мас мэт і задач каапэрацыі і каапэраваньня беднаты.

9. Камітэтам Сялянскае Ўзаемадапамогі трэба дапамагаць сельска-гаспадарчай каапэрацыі арганізаваць беднякоў у сельска-гаспадарчыя арцелі, камуны, мэліарацыйныя і торпавыя таварыствы і інш., вылучаючы ў гэтыя арганізацыі актыўных і сумленных членаў таварыства ўзаемадапамогі—беднякоў і серадня коў.

10. Камітэты Сялянскае Ўзаемадапамогі павінны трымаць шчыльную сувязь з кіруючымі органамі каапэрацыі, асабліва сельска-гаспадарчай, і наглядаць, каб пазычкі, якія атрымліваюць члены таварытва ад каапэрацыі, скарыстоўваліся па прызначэньню.

11. У выключных выпадках, калі у каапэрацыйных органах ня будуць адлічаны выстарчальныя сродкі на каапэраваньне беднаты, адлічаецца частка ўласных сродкаў камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі на каапэраваньне беднаты, калі гэтыя сродкі ёсьць, згодна каштарысу і пляну працы Камітэту Сялянскае Ўзаемадапамогі па каапэраваньню беднаты.

12. Паі ў каапэрацыю Камітэты Сялянскае Ўзаемадапамогі ўносяць за беднату паводле сваёй пастановы ў суме ад 1 да 3 рублёў на адзін пай, пры гэтым ні ў якім выпадку нельга дапушчаць унясеньня ў каапэрацыю поўнага паю за бедняка, аб чым трэба наперад умовіцца з органамі каапэрацыі.

13. За ўнесены за бядняцкую гаспадарку Камітэтамі Сялянскае Ўзаемадапамогі пай ад асобы, якая каапэруецца, бярэцца абавязанасьць аб тым, што сума на выплату паю даецца як доўгатэрміновая пазыка, якую гэтая асоба павінна выплаціць праз год або два ў залежнасьці ад заможнасьці гаспадаркі.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх
Таварыстваў Узаемадапамогі БССР **Л. Адзінцоў**.

Старшыня Праўленьня Беларускага Саюзу
Спажывецкае Каапэрацыі БССР **М. Наўлянскі**.

Нам. Старшыні Праўленьня Беларускага Сельска-
Гаспадарчага Банку **С. Будкевіч**.

19 лістапада 1926 г.
№ 11.

## 11. Палітыка-асьветная праца ў вёсцы.

## (Да Зьезду Ізбачоў).

Задачы палітасьветнай працы ў вёсцы цесна зьвязаны з чарговымі задачамі гаспадарчай палітыкі савецкай ўлады.

Рост сельскай гаспадаркі, які выяўляецца, нават, пры вельмі адсталай тэхніцы, пры імкненьні на індустрыялізацыю яго, ставіць ва ўсю велічыню пытаньне аб дапамозе сельскай гаспадарцы з боку палітасьвет-устаноў вёскі. Вясковая палітасьвет-праца мае сваёй асноўнай мэтай падняць культурны і палітычны ўзровень бядняцкай і серадняцкай часткі вёскі.

Гэта азначае і нашу працу па разьвіцьці ў вёсцы савецкай грамадзкасьці і працу па дапамозе вёсцы ў справе падняцьця сельскае гаспадаркі і будаўніцтва савецкае ўлады.

Асноўным правадыром усіх мерапрыемстваў савецкай ўлады і камуністычнай партыі зьяўляецца пры правільнай пастаноўцы працы —хата-чытальня.

Хата-чытальня—тып масавай палітыка-асьветнай установы, вядзе сваю гісторыю толькі ад Кастрычніка.

Яна зьяўляецца ня толькі культурным цэнтрам, але павінна быць і баявым палітычным асяродкам, асяродкам дзяржаўнай агітацыі і прапаганды ўсіх мерапрыемстваў савецкай ўлады.

Хата-чытальня—памочнік ня толькі насяленьня, але і органаў савецкай улады на мясцох. Пры росьце культурных і палітычных запатрабаваньняў і запытаньняў ня толькі бядняцкай і серадняцкай вёскі, але і кулака, хата-чытальня набывае асаблівае значэньне.

Пры росьце палітычных і гаспадарчых апэтытаў кулацкіх груп вёскі, у імкненьні да эканамічнага padняволеньня беднаты і ў арганізацыйным націску на сельсаветы, хата-чытальня пры сваёй мэтавай устаноўцы становіцца цалкам вясковай установай, патрабуючай з боку савецкіх органаў на мясцох асаблівае ўвагі.

Усё гэта прымушае ставіць пытаньне аб пашырэньні сеткі хат-чытален і аб палепшаньні іх працы.

На 1926-27 бюджэтны год мы па ўсей БССР, уключаючы Рэчыцкую і Гомельскую акругі, маем 365 сеткавых чат-чытален, якія знаходзяцца на мясцовым бюджэце і 97 народных дамоў.

Бяз Гомелю і Рэчыцы—307 хат-чытален замест 273 ў 1925-26 г., што паказвае аб росьце сеткі на 12,47 проц. Такім чынам, адна хата-чытальня (разам з народнымі дамамі) прыпадае ў сярэднім на 8.928 чал. (бяз Гомелю і Рэчыцы). Само сабой зразумела, што гэта колькасьць далёка не здавальняе патрэб насяленьня, якое ў большасьці прызнае патрэбным мець сваю хату-чытальню. У выніку гэтага па БССР адчынена яшчэ 308 хат-чытален на дагаворах самога насяленьня і гарадзкімі рабочымі арганізацыямі, якія зьяўляюцца шэфамі.

Разам з ростам сеткі хат-чытален павялічваецца і рост чырвоных куткоў, праца якіх разьвіваецца, амаль што выключна, на сама-

дзейнасьці сялян, бо чырвоныя куткі ня маюць штатных працаўнікоў. Усяго такіх куткоў, бяз Гомельшчыны, у нас на 1925-26 год налічвалася 1.082. Хата-чытальня паступова ўваходзіць і замацоўваецца ў вясковым быце, робіць уплыў на ўсё большую і большую колькасьць дарослых сялян.

Сярэдняе штодзённае наведваньне хаты-чытальні—35—40 чал. Апрача гэтага каля хаты-чытальні, дзе добра вядзецца праца, гуртуецца сялянскі актыў, які часткай уваходзіць у савет хаты-чытальні, дапамагае загадчыку хаты-чытальні ў бягучай працы, праводзячы чыткі, прыцягвае новых наведвальнікаў, прымае ўдзел у правядзеньні розных кампаній і г. д.

Утварэньне і выяўленьне актыву каля хаты-чытальні можа і павінна палягчаць вылучэньне сялян на савецкую працу.

Нізавыя савецкія органы пры чарговых перавыбарах саветаў і другіх арганізацый павінны навучыцца карыстацца дапамогаю хаты-чытальні. Бязумоўна, што дапамога хаты-чытальні ў будаўніцтве савецкае ўлады, у ажыўленьні саветаў, можа і павінна выяўляцца ня толькі ў дні кампаніі, а і ў штодзённай працы. Адсюль трэба ўвязаць пляны хаты-чытальні з плянамі працы райвыканкомаў і сельсаветаў, сыстэматычна весьці прапаганду хатай чытальняй рашэньняў савецкіх органаў, як мясцовых, так і цэнтральных, прапаганду рэвалюцыйнай законнасьці, разгортваньне працы даведачных сталоў.

Выданьне насьценнае газэты ў хаце-чытальні, уцягваньне беднаты і батрацтва ў селькорства—таксама адзін з відаў ажыўленьня сельсаветаў.

У 1925-26 г. пры хатах-чытальнях было выдана ў 3-х месячны перыяд 843 насьценных газэты; каля хат-чытален згрупавалася ў гэтым самым годзе 1.1 9 селькораў. Пад уплывам хат-чытален і селькораў расьце і колькасьць газэт, якія выпісваюцца насяленьнем. Так, у 1925-26 г. выпісвалася 118.351 экз. (магчым недакладны падлік у бок замяншэньня фактычнай лічбы). І селькорства і выпіска газэт ёсьць ня толькі адзнака культурнага і палітычнага росту сялянства, але і ўцягваньня яго ў актыўнае будаўніцтва—мэтад ажыўленьня савецкай грамадзкасьці ў вёсцы. Рост савецкай грамадзкасьці, які выяўляецца ў зацікаўленасьці савецкай працай і развіцьці селькорства і насьценгазэты, выяўляецца яшчэ і ва ўдзеле сялян у цэлым шэрагу дабраВольных таварыстваў. Так, у „МОПР“ налічваецца 60.676 членаў, у Т-ве „Прэч няпісьменнасьць“—27.190 членаў, у „АВІАХІМ-е“—33.753 членаў.

З практычных вынікаў працы аднаго з гэтых таварыстваў—„Прэч няпісьменнасьць“, мы маем 1.071 лікпункт, адчыненых на сродкі т-ва (па акругах).

Пытаньні індустрыялізацыі сельскае гаспадаркі знаходзяць адбітак у агранамічна-каапэрацыйнай прапагандзе хаты-чытальні. На жаль, цяжка падлічыць канкрэтныя выпадкі ўплыву гэтай працы на перабудову гаспадаркі асобных сялян і таварыстваў асабліва, калі ўзяць пад увагу, што ў большасьці пастаноўка агранамічнай і каапэрацыйнай прапаганды далёка нездавальняючая. Але пры сеткавых хатах-чытальнях у 1925/26 годзе існавала 312 сельска-гаспадарчых гурткоў з 6.326 ўдзельнікамі. Пры гэтым па вестках на 1926/27 год толькі па 4 акругах такіх гурткоў існуе ўжо 259 з 4.209 ўдзельнікамі.

У хатах-чытальнях у 1925/26 г. налічвалася 41.541 экз. сельска-гаспадарчай літаратуры (данныя па акругах).

На пастаноўку агранамічнай-прапаганды ў хатах-чытальнях

трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу як самой хаце-чытальні, так і райвыканкомам, у раёне якіх гэтыя хаты-чытальні працуюць.

Пытаньні каапэрацыйнай прапаганды, маючыя сваёй мэтай каапэраваньне сялянскіх гаспадарак, уцягваньне ў каапэрацыю беднякоў і батракоў, вылучэньне іх у праўленьні каапэратываў і г. д., ва ўмовах малазямельнасьці беларускага сялянства і надзвычайнай адсталасьці нашай сельскай гаспадаркі—адна з важнейшых нашых задач.

Хата-чытальня абавязана, пры дапамозе каапэрацыйных арганізацый і мясцовых органаў улады стаць першай у справе каапэрацыйнай прапаганды.

Адсюль задача—папоўніць хаты-чытальні каапэрацыйнай літаратурай, арганізаваць каапэрацыйныя гурткі, каапэрацыйныя куткі і г. д.

Наўкола хаты-чытальні гуртуецца і ўся праца наогул па падняцьці культурнага і палітычнага ўзроўню дарослага насяленьня. Вынікам гэтага мы маем у 1925/26 г. пры хатах-чытальнях наступныя гурткі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 288 | гурткоў | палітграматы з колькасьцю членаў . . . . . . | 4.264 |
| 71 | „ | па прыродазнаўству і антырэлігійных пытаньнях з колькасьцю членаў . . . . . . . . . . | 1.367 |
| 328 | „ | драматычных з колькасьцю членаў . . . , . . | 4.473 |
| 261 | „ | селькораўскіх „ „ . . . . . . . | 657 |
| 269 | „ | розных (сюды ўваходзяць і каапэрацыйныя) . . | 8.205 |

Паказаныя вышэй селькоры (1.149) ня ўсе ўваходзяць у селькораўскія гурткі.

Уся палітыка-асьветная праца хаты-чытальні ў значнай ступені залежыць ад стану пісьменнасьці насяленьня. Таму для паўнаты малюнку працы хаты-чытальні трэба адзначыць колькасьць навучаемых на лікпунктах і школах малапісьменных.

У 1925/26 г. лікпунктаў было—363.

У 1926/27 г. лікпунктаў—582.

Усяго няпісьменнага насяленьня па БССР ўзростам ад 16 да 35 гадоў па перапісу 1920 г. на 1000 чал. насяленьня БССР прыпадае 673 няпісьменных. Данныя па перапісу 1927 г. яшчэ не распрацаваны. Гэта адно сьведчыць аб надзвычайнай цяжкасьці палітасьветнай працы, якая яшчэ пагоршваецца нездавальняюча ўважлівымі адносінамі да хаты-чытальні з боку мясцовых савецкіх органаў, а таксама частымі зьменамі палітасьветпрацаўнікоў у вёсцы. Часта ў такіх выпадках хата-чытальня зачынена на замок і праца спыняецца.

Кароткі агляд асноўных відаў працы хаты-чытальні гаворыць аб надзвычайнай важнасьці палітыка-асьветнай працы ў вёсцы, а таксама сьведчыць аб невыстарчальным тэмпе гэтай працы, невыстарчальнай зацікаўленасьці мясцовых органаў улады.

Вось чаму вельмі патрэбна дабівацца пералому ў адносінах палітычнае асьветы шырокіх сялянскіх мас. Для гэтага належыць: а) рашуча паставіць пытаньне аб павялічэньні сродкаў у 1927/28 бюджэтным годзе на літаратуру для хат-чытален; б) правесьці цэнтралізацыю гэтых сродкаў па ўсіх акругах і акрпалітасьветах, што дасьць магчымасьць з аднаго боку утаньніць закупку кніг, з другога—урэгуляваць падбор кніг для вёскі, в) паставіць пытаньне аб рамонце памяшканьняў хат-чытален і аб перадачы пад хаты-чытальні быв. школьных памяшканьняў, якія звальняюцца пры пабудове но-

вых школьных памяшканьняў, г) рашуча забараніць пэрыяд палітасьвет-працаўнікоў бяз ведама і згоды акрпалітасьветаў, трымаючы лінію на стабілізацыю палітасьветпрацаўнікоў, д) для падняцьця інтарэсу і належнае ўвагі палітасьветпрацы дабіцца абавязковага заслухоўваньня дакладаў аб працы хат-чытален на прэзыдыумах акруговых і раённых выканаўчых камітэтаў і сельсаветаў.

Апрача гэтага, паколькі ўсе віды палітасьветпрацы маюць паміж сабой неразрыўную сувязь, паколькі палітасьветпраца ахапляе прапаганду мерапрыемстваў улады і партыі і прасоўваньня ведаў па самых разнастайных пытаньнях, трэба ў хаце-чытальні сканцэтраваць як у фокусе работу ўсіх мясцовых культурных сіл і арганізацый, зьвязаўшы яе ў агульным пляне работы хаты-чытальні. Адзін загадчык хаты-чытальні, якім-бы ён здольным ня быў, ня можа весьці працу па спэцыяльных галінах. Вось чаму і доктар, і аграном, і судзьдзя, і сьледчы, і каапэратар, як савецкія грамадзкія працаўнікі, маючыя перад сабою пэўныя культурныя задачы, павінны зьвязвацца з хатай-чытальняй, павінны дапамагчы ў яе працы.

У сярэдзіне сакавіка г. г. ў Менску адбудзецца Першы Ўсебеларускі Зьезд Загадчыкаў хат-чытален. Зьязджаецца цэлая армія вясковых палітасьветнікаў для вырашэньня практычных пытаньняў палітасьветпрацы ў вёсцы і для праверкі свае працы ў справе дапамогі сацыялістычнаму будаўніцтву і выкананьня агульных дырэктыў партыі.

Гэты Зьезд павінен палажыць пачатак у новым напрамку працы хат-чытален як у сэнсе паляпшаньня іх працы, так і ў сэнсе ўтварэньня пэўных адносін да яе з боку мясцовых органаў улады.

**З. Шамардзіна.**

---

## 12. Якія меры прадугледжвае Вэтэрынарны Статут БССР ў справе Вэтэрынарна-Санітарнага нагляду *).

З прычыны таго, што перавозка жывёлы, птушак і сырых жывёлавых прадуктаў зьяўляецца небясьпечнаю ў распаўсюджваньні заразы, наш Вэтэрынарны Статут устанаўляе наступныя правілы перавозкі жывёлы і жывёлавай сырызны, якія забясьпечваюць недапушчэньне распаўсюджваньня заразы.

Перавозка жывёлы і птушак па чыгуначных і вадзяных шляхох зносін дазваляецца выключна толькі пры ўмове, калі будзе:

1) пасьведчаньне аб дабрабытнасьці месца пахаджэньня або закупкі іх;

2) пасьведчаньне аб стане іх здароўя, г. зн.—аб атсутнасьці ў іх адзнакаў заразьлівых хвароб.

Першае пасьведчаньне выдаецца вэтэрынарным доктарам або фэльчарам, а пры атсутнасьці іх - мясцовай уладай; другое—вэтэрынарным доктарам у 1-м пункце агляду жывёлы ці сырых жывёлавых прадуктаў (арт. 57, п. п. „а“ і „б“ Вэтэрынарнага Статуту). Правілы гэтыя пашыраюцца таксама на гандлёва-прамысловую, перасяленчую і гуртавую жывёлу, якая праходзіць па грунтавых шляхох.

Пры перагоне жывёла ідзе па ўстаноўленых для гэтага акруговымі выканаўчымі камітэтамі шляхох і трактах і ўваходзіць у абшары суседніх акруг выключна праз пункты вызначаныя па згодзе паміж

---

*) Гл. арт. т. Жарына ў Бюлетэні г. г. № 4 (29), стар. 37.

акруговымі выканаўчымі камітэтамі суседніх акруг. Калі гурты жывёлы перавозяцца па чыгунцы, то пагрузка і выгрузка іх дапушчаецца на вызначаных і прыстасаваных для гэтага станцыях, якія абвяшчаюцца ў асобных сьпісах (арт. 59).

Усе гэтыя меры не дапушчаюць вывазу жывёлы з мясцовасьцяй, дзе ёсьць заразьлівыя хваробы і ставяць перавозку яе ў дасканала бясьпечныя для распаўсюджваньня заразы ўмовы.

Гэтыя-ж правілы тычацца таксама і перавозкі сырых жывёлавых прадуктаў. Да сырых жывёлавых прадуктаў па Вэтарынарнаму Статуту належаць: мясныя тушы, іх часьці і органы, салёнае мяса, нетопленае сала, жалудкі, кішкі, нявырабленыя скуры, кроў, косьці, рогі, капыты, шэрсьць, волас, шчаціна, грыва, хвасты (арт. 64).

Вываз партый сырых жывёлавых прадуктаў дапушчаецца толькі з мясцовасьцяй, у якіх няма заразьлівых хвароб. Аб тым, што ў даннай мясцовасьці няма заразьлівых хвароб трэба мець пасьведчаньне вэтэрынарнага доктара, фэльчара, або мясцовага выканаўчага камітэту. Калі-ж у мясцовасьці гэтых хвароб няма, сырыя жывёлавыя прадукты могуць вывозіцца ў кожным асобным выпадку толькі з дазволу вучастковага вэтэрынарнага доктара. Вэтэрынарны доктар разьбярэцца, адкуль ідуць прадукты, небясьпечны яны ці не і ў залежнасьці ад гэтага ён дасьць дазвол або ня дасьць. Калі, напрыклад, у вёсцы зьявілася „сібірка“, дык адтуль напэўна нельга вывозіць сырызну. Але з суседняй вёскі, калі там ня было захварэньня скаціны вываз можа быць дазволены.

Калі сырыя жывёлавыя прадукты вывезены без дазволу і ня маюць вэтэрынарнага пасьведчаньня, то яны ў залежнасьці ад роду хваробы ці паддаюцца абеззаражваньню, ці пераапрацоўваюцца на бліжэйшым заводзе для скарыстаньня сырызны або зусім зьнішчаюцца.

Вялікае значэньне мае яшчэ вэтэрынарны нагляд за мясам і іншымі жывёлавымі прадуктамі ўжываемымі для яды. Зарэз усякае жывёлы з прамысловай мэтай павінен рабіцца на асобных разьніцах або прыстасаваных для гэтага зарэзных пунктах. Гэтая мера мае надзвычайна вялікае значэньне. У нас на вёсках часта рэжуць жывёлу па дварох, мяса ж пасьля зарэзу не аглядаецца ні вэтэрынарным доктарам, ні вэтэрынарным фэльчарам. Жывёлу часта рэжуць тады, калі яна безнадзейна хворая, і невядома—чым яна хварэе. Ад гэтага ў нас здараецца шмат няшчасных выпадкаў з захварэньнем чалавека сьмяротнай заразьлівай хваробай. Нярэдка такое мяса вывозіцца на рынак і ад яго заражаецца шмат людзей. Калі-б зарэз жывёлы рабіўся ў адным прызначаным месцы дзе-небудзь на краю вёскі (зарэзны пункт), калі-б мяса пасьля зарэзу аглядалася вэтэрынарным доктарам або вэтэрынарным фэльчарам, то ўдалося-б папярэдзіць шмат няшчасных выпадкаў ад заражэньня мясам.

Пабудаваць зарэзны пункт у вёсцы—справа зусім няхітрая. Трэба толькі даць якую-небудзь невялікую пуню на краю вёскі, зрабіць вокны, прыладзіць столь, убіць пару крукоў у столь і сьцены, выкапаць студню—і зарэзны пункт гатоў. А з вэтэрынарным наглядам можна дагаварыцца, каб скаціну ў вёсцы рэзалі толькі ў вызначаныя дні. Тады нагляд будзе забясьпечаны і мяса можна будзе ўжываць бяз сумненьня.

Агледжанае мяса штампуецца асобным штампам, які паказвае, што мяса можна ўжываць для яды. Калі мясныя прадукты прывозяцца ў горад, то да паступленьня ў продаж яны павінны аглядацца вэтэрынарным доктарам. Калі мяса прызнана ня зусім дабраякасным,

то яно абеззаражваецца. Для гэтай мэты ў разьніцах ёсьць асобныя
прыстасаваньні.

Гандаль мясчымі прадуктамі, якія ня былі агледжаны, у мяс-
цох, дзе ёсьць вэтэрынарны нагляд, забараняецца і караецца паводле
арт. 141 Крымінальнага Кодэксу.

Старannae і сумленнае правядзеньне ўсіх прадугледжаных вэ-
тэрынарным статутам вэтэрынарных мер пазбавіць нас ад небясьпекі
заражэньня пры ўжываньні для яды мясных прадуктаў і абароніць
жывёлу ад заразьлівых хвароб.

**М. Жарын.**

---

## 13. Аб рэвізійных камісіях пры Сельскім Савеце.

(*У парадку абмеркаваньня*).

З часу мінулых перавыбараў сельскіх саветаў у нас па БССР
арганізаваны пры сельскіх саветах рэвізійныя камісіі. Ясна, што калі
ўводзіцца што-небудзь новае, то яно ня так скора прывіваецца, а
калі такія новаўтвораныя органы пачынаюць працаваць, то яны ча-
ста пераходзяць свае межы. Прычына гэтага ў тым, што Раённыя
Выканаўчыя Камітэты далі інструкцыі, як працаваць рэвізійным ка-
місіям, роўна праз паўгода (напр., Рагачоўскі Раённы Выканаўчы Ка-
мітэт). Рэвізійныя камісіі ўвесь час нічога не рабілі, бо ні сельскі
савет ні рэвізійная камісія ня ведалі, што павінны рабіць рэвізій-
ныя камісіі. Вось па гэтых прычынах наш сельскі савет рэвізавала
рэвізійная камісія толькі адзін раз у год. Як ўжо адзначыў у
сваім артыкуле тав. Лібман, нашы сельскія саветы ня маюць ніякае
маемасьці, як грашовае, так і матар'яльнае, але ўсё-ж такі перад рэ-
візійнымі камісіямі ляжыць цэлае поле дзейнасьці на тэрыторыі сель-
скага савету і апрача праверкі выкананьня пастаноў сельскага са-
вету. Канцылярыя нашага сельскага савету была зусім у другой
вёсцы, пакуль сяляне не даведаліся, што сельскі савет павінен зна-
ходзіцца ў тым пункце, назвай якога ён называецца, дзе больш нася-
леньня. Была пастанова пленуму сельскага савету аб пераводзе кан-
цылярыі сельскага савету ў в. В.-Крушынаўку, але пакуль рэвізій-
ная камісія ня ведала сваіх праў, то сельсавецкая канцылярыя была
чуць ня дома на печы ў сэкратара; як толькі камісія даведалася аб
сваіх правох, то сельскі савет пераехаў у трохдзенны тэрмін.

Возьмем установы, якія знаходзяцца ў сельсавеце: школу, ка-
апэратыў, камітэт узаемадапамогі, грамадзкія арганізацыі, чырвоны ку-
ток, ячэйкі „Прэч няпісьменнасьць“, Мопр і г. д. Ці нельга рэвізій-
най камісіі паглядзець, куды выдаткоўваюцца грошы ячэйкі „Прэч
няпісьменнасьць“, абсьледаваць працу сельскага Камітэту Ўзаемадапа-
могі (хлеб у магазынах), абсьледаваць, як выдаткоўваліся грошы, да-
дзеныя школе камітэтам, куды яны павернуты, можа закупленыя пісь-
мовыя прылады раздаюцца дзецям заможных сялян і г. д. і да г. п.
Я лічу, што рэвізійная камісія пры сельскім савеце—гэта ёсьць ра-
боча-сялянская інспэкцыя даннага сельскага савету.

Цяпер адносна праверкі рэвізійнай камісіяй пастаноў вышэй-
стаячых установ раённага маштабу. У нас у 1924 годзе пачала бу-
давацца плянавая двох-камплектная школа, якая да гэтага часу яшчэ
не пабудавана і на адну пятую частку. Хто-ж павінен сачыць за гэ-
тым? Ясна, што рэвізійная камісія гэтага сельскага савету. Яна па-
вінна запытаць, якія прычыны перашкаджалі пабудове школы, калі

сялянства ахвотна вывезла лес, цэглу, камень і г. д. Можа тут справа павінна быць перадана ў суд, то гэта трэба рэвізійнай камісіі расьсьледаваць. Лес тым часам расьцягваецца злачынцамі. Такім чынам у кола дзейнасьці рэвізійных камісій сельскага савету павінна ўваходзіць ня толькі праверка дзейнасьці сельскіх установ, але таксама і раённых, калі распараджэньні іх тычацца сельскага савету.

**Я. Савіцкі.**

22 студзеня 1927 г.
в. В.-Крушынаўка Рагачоўскага раёну.

---

## 14. Дзейнасьць В.-Крушынаўскага Сельскага Савету Рагачоўскага раёну Бабруйскае акругі за пэрыяд з 16 студзеня па 12 сьнежня 1926 г.

На тэрыторыі, займаемай В.-Крушынаўскім сельскім саветам знаходзіцца 3 буйных населеных пункты, 1 лясная старожка, 5 пасёлкаў і 1 пункт хутароў, а ўсяго 10 населеных пунктаў. Двароў лічыцца 411, насяленьня—2.448 чал., усе беларусы-беднякі, ёсьць 2 яўрэйскія сям'і саматужнікаў.

Агульная плошча зямлі складае 2.734 дзес., з яе пахаці—1.846 дзес., сенажаці—785 дзес. і няўдоб'яў 103 дзес.; апрача гэтага пад возерам занята 96 дзес. Гаспадаркі вядуцца большай часьцю церасналосна, хутарамі і пасёлкамі. У адным пункце зроблена земляўпарадкаваньне яшчэ ў 1924 годзе. Глеба даволі спрыяючая для росту ўсіх культур, але дзякуючы перанасяленьню і недахвату зямлі сяляне жывуць бедна, прыходзіцца займацца пабочнымі заробкамі, як рубка і возка лесу. Такая вялікая перанаселенасьць прымусіла сялян шукаць зямлі, для чаго 30 сямей атрымала дазвол на перасяленьне на Амур. Есьць спробы да пераходу на штучнае ўгнаеньне (засеў лубіну і г. д.).

Коней па сельсавету лічыцца 503, маладняка—жарабят—141, кароў 822, быкоў 11, цялят 134, сьвіней 900, авец 1000 шт.

З сельска-гаспадарчых прылад ёсьць 408 плугоў, 344 жалезныя бараны, калёс 370, саней 410, малатарань 9, сячкарань 7, воўначосак 4. На тэрыторыі сельскага савету ёсьць наступныя прадпрыемствы: 3 ветраныя млыны (1 сапсаваны), 1 прамысловы сад, 1 смалярня.

Гаспадарак бяз коней 17, незаможных 72, інвалідаў 5, удоў 8, сірот 8, сямей чырвонаармейцаў 23, вучняў рабфакаў і вышэйшых навучальных установ няма.

Культурны ўзровень сялянства нізкі. Есьць 3 школы, зьмешчаныя ў наёмных будынках, непрыстасаваных пад школы, настаўнікаў 3. Дзяцей у школах вучыцца 194, ёсьць значны прырост наведваньня школы ў гэтым годзе дзяўчатамі. Наогул процант дзяцей школьнага ўзросту слабы (у вёсцы В.-Крушынаўцы да 38%). Меркавалася пабудаваць адну плянавую школу яшчэ ў 1924 годзе, але па нядбайнасьці Раённага Выканаўчага Камітэту і Лясьніцтва пабудавана толькі падмуроўка.

Палітыка-асьветная праца праводзіцца ў 2 чырвоных кутках, арганізаваных самадзейнасьцю моладзі і культурна-асьветнай сэкцыяй, пры якіх працуюць гурткі: газэтныя, сельска—гаспадарчыя і драматычныя. Пры адным кутку арганізаваны гурток селькораў, які кіруе насьценнай газэтай пры сельскім савеце. Газэт выпісваецца па ўсяму сельскаму савету 58 экзэмпляраў, з іх асабліва распаўсюджваецца „Крестьянская газета“ і „Беларуская Вёска“, а таксама „Камуніст“.

Усім культурным жыцьцём сельсавету кіруе культурна-асьветная камісія, якая вяла працу здавальняюча. Зямельнымі справамі кіруе арганізаваная зямельная камісія. Усе ўзьнікаючыя спрэчкі і непаразуменьні вырашаюцца на месцы. Зроблена 8 апісаў маемасьці грамадзян, якія судзяцца аб падзелах. Вырашана 10 дробных спрэчак.

Сэкцыя дабрабыту адрамантавала 4 масты вясковага значэньня. Арганізавана пажарная дружына з 23 чалавек, здабыта 4 пажарныя бочкі і дробны пажарны інвэнтар. Заказана яшчэ 6 бочак за сродкі насяленьня. Каапэрацыйная праца вядзецца слаба, усяго пайшчыкаў 62, што складае 13% каапэраваных гаспадарак. Існуючае 1 аддзяленьне задавальняла больш патрэбнымі таварамі. Сельска гаспадарчага падатку на 1925/26 г. было налічана 6.487 р. 49 кап., зроблена скідак бядняцкім гаспадаркам і ўдовам 314 р. 08 к., унесена 6.018 р. 11 кап., засталося 100 р. 30 кап. нядоімак, страхоўка выплачвалася бяз усякіх перабояў.

У галіне пасеўнае кампаніі праведзена значная праца: адсартавана насеньня да 1000 п., пратраўлена фармалінам 530 пудоў, засеяна было рознымі культурамі 1.300 дзес. Увосень ачышчана 1.600 пудоў жыта і абменена на лепшы гатунак („іванаўка“) 77 п.

Праца сельскага Камітэту Ўзаемадапамогі невыстарчальная, ён не зьяўляецца тэй установай, вакол якой арганізуецца бядняцка-серадняцкі пласт вёскі. Сельскі Камітэт Ўзаемадапамогі браў у арэнду возера, але прыбытку ніякага ня меў. Есьць два магазыны на 888 п. збожжа, але бедната не атрымлівае дапамогі насеньнем.

Пры сельскім савеце існуе ячэйка „Прэч няпісьменнасьць“ у ліку 15 чалавек, якая арганізавала 2 пункты ліквідацыі няпісьменнасьці, якімі выпушчана 37 чалавек. Усіх членаў сельскага савету 12, у тым ліку старшыня і сэкратар.

З усіх членаў 8 беднякоў, 3 сераднякі, 1 настаўнік і 2 жанчыны кандыдаткі. У працу ўцягнуты ўсе члены праз прымацаваньне кожнага да камісій, якіх налічвалася 5: камісія па дабрабыту, культасьветная, зямельная, падатковая і каапэрацыйная. Усе гэтыя камісіі працавалі здавальняюча, за выключэньнем каапэрацыйнай.

Прэзыдыум сельсавету складаўся з 3 чалавек. Пасяджэньні Прэзыдыуму адбываліся кожны тыдзень, на якіх было разгледжана 105 пытаньняў. Пленумы праводзіліся раз у месяц па ўсіх вёсках, на якіх апрача членаў сельскага савету прысутнічалі сяляне, прадстаўнікі Раённага Выканаўчага Камітэту і інш. савецкіх і партыйных арганізацый. Пленумаў за справаздачны пэрыяд адбылося 8, на якіх разгледжана 40 пытаньняў; наогул, робяцца даклады, маючыя грамадзкі характар. Работа праводзіцца плянава, для чаго на кожныя 3 месяцы складаецца плян, які зацьвярджаецца пленумам.

Сходы сялян адбываюцца амаль што кожны месяц па ўсіх вёсках, дзе вырашаюцца пытаньні бягучага жыцьця. Праведзена 1 канфэрэнцыя беспартыйных сялян, 2 канфэрэнцыі дапрызыўнікаў. У галіне беларусізацыі ёсьць значнае дасягненьне; справаводзтва сельскага савету вядзецца на беларускай мове з 1 кастрычніка, школы таксама працуюць на беларускай мове. Усе грамадзкія арганізацыі на тэрыторыі сельскага савету робяць пэрыядычна даклады на пленумах, на якіх і даецца ім належнае кіраваньне.

**Я. Савіцкі.**

8-га лютага 1927 г.
в. В.-Крушынаўка,
Рагачоўскага раёну.

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**